# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

**№1 (2507)** | **2 студзеня 1997 г.** | **Выдаецца з 1955 г.** | **Цана 1 000 рублёў.**


## ПРЫЕМНЫ ГАРАДОК



**Цэнтр Шчучына.** ***(Працяг фотарэпартажу на 3-й стар.).***

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

**Пачынаем друкаваць (6-я стар.). нататкі старэйшага беларускага пісьменніка Сяргея Грахоўскага "На скрыжаванні".**

**У згаданых успамінах пісьменнік з разуменнем і дабратой, спагадай і сімпатыяй расказвае пра людзей, якія даўно пайшлі з гэтага жыцця, і найперш пра Петруся Броўку.**

## КНІГІ ВУЧЫЛІ ЛЮДЗЕЙ

Зараз адзначаецца 400-годдзе выхаду вучэбных кніг "Азбука" і "Граматыка" Лаўрэнція Зізанія Тустаноўскага, якія ён выдаў у 1596 годзе ў Віленскай Святадухаўскай праваслаўнай брацкай друкарні. Цяпер аўтар і яго вучэбныя кнігі агульнавядомыя, нават паштовую марку ў Мінску выдалі з гэтай нагоды.

Аднак раней быў другі час, калі да Лаўрэнція Зізанія наменклатурныя гісторыкі і з іх падачы партыйныя функцыянеры ставіліся вельмі адмоўна. Вось што гаварыў на XIII пленуме ЦК КПБ 29 красавіка 1974 года першы сакратар ЦК КПБ П. Машэраў: "...Вострымі ставяцца пытанні партыйнай адказнасці вучонага, выразнасці яго светапоглядных, класава-палітычных пазіцый. Аб гэтым даводзіцца напамінаць у сувязі з тым, што ў некаторых публікацыях, у тым ліку аб народных паэмах "Энаіда навыварат" і "Тарас на Парнасе", у работах аб Ефрасінні Полацкай, Сматрыцкім, Зізаніі праявіліся адгалоскі пазакласавага аб'ектывізму, ідэалізацыі асобных багасловаў як выдатных асветнікаў. За такімі парадоксамі ў тлумачэнні грамадскіх з'яў у асобных даследчыкаў часам выяўляюцца погляды, якія знаходзяцца ў супярэчнасці з ленінскім прынцыпам партыйнасці навукі і непарушнымі ідэйнымі прынцыпамі нашага грамадства" ("Звязда", 1974, 30 красавіка). Нягледзячы на такі суровы прысуд, сапраўдныя даследчыкі ў

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

*НАВАГОДНІ ПАДАРУНАК ДЗЕЦЯМ*



**"Прыгоды на Калядах" — так называецца вясёлае навагодняе прадстаўленне, якое падрыхтавалі для дзяцей акцёры Тэатра юнага гледача. Дзятва ўбачыць на сцэне амаль усіх казачных герояў — Змея-Гарыныча, Іванку, Бабу Ягу, з якімі ў навагоднюю ноч адбываюцца дзіўныя прыгоды.**

**НА ЗДЫМКУ: сцэна з навагодняга прадстаўлення ў Тэатры юнага гледача.**

**Фота Мікалая ПЯТРОВА.**

З ПЛЕЯДЫ ДЗЕКАБРЫСТАЎ

## РАМАНТЫЧНЫЯ ГУЛЬНІ КАПІТАНА ЯКУБОВІЧА

Дзекабрысты паўстаюць у масавай свядомасці ці карыслівымі узурпатарамі, ці душэўнымі летуценнікамі, якія вырашылі прынесці сябе ў ахвяру. А яны былі — перш за ўсё! — палітыкамі. Палітыкамі бескарыслівымі ў большасці сваёй і, галоўнае, разумнымі. Так, яны спачувалі прыгонным рабам. Але імі рухалі зусім не толькі чалавекалюбства і спачуванне. Імі рухаў і палітычны разлік, прадбачанне таго, што можа адбыцца ў Расіі, усведамленне катастрофы, да якой вяло краіну самадзяржаўе. Яны прадбачылі разрастанне сацыяльнага антаганізму і новую пугачоўшчыну. Яны хацелі волі і справядлівасці для сялян, але не грамадзянскай вайны.

Многія з іх першапачаткова не хацелі крывавых катаклізмаў. Яны хацелі рэформ.

Узяцца за зброю іх прымусіла нежаданне і няўменне ўрада пачаць неабходныя рэформы — вызваліць рабоў, разняволіць эканоміку, упарадкаваць фінансы, устанавіць выкананне законнасці, паставіць выканаўчую ўладу пад кантроль прадстаўнічых устаноў...

Аб лёсе аднаго з слаўнай плеяды дзекабрыстаў, ураджэнца Беларусі Аляксандра Іванавіча Якубовіча наш аповяд.

### РАМАНТЫЧНЫ ГЕРОЙ У СФЕРЫ ПРАКТЫЧНАЙ ПАЛІТЫКІ

У ліпені 1826 года, перад тым як адправіцца на катаргу, былы капітан Ніжагародскага драгунскага палка Аляксандр Якубовіч пісаў бацьку: "Батюшка! в последний раз мне суждено говорить с вами, и я, как откровенный солдат, обнаружил мою душу. Вы бы могли требовать этого как отец от сына, но я признан недостойным носить имя это, законы меня осудили, и я погиб, погиб невозвратно. Надежда моя, вспорхнувши при переломе шпаги, но над полуразрушенной головой моей, опалила крылья на огне, где горел знак, купленный презрением к жизни, и я достоин этой участи. Ах! Для чего убийственный свинец на горах Кавказских не пресек моего бытия? Для чего я искал спасения в острие моей сабли? Позор ужаснее смерти! Я был не столько в душе преступником, сколько желал оным сделаться. Самолюбие подстрекало меня, и сей порок ужаснейший был причиной моей гибели.

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

## БЕЛАРУСКІМ ГРАМАДЗЯНАМ, ЯКІЯ СВЯТКУЮЦЬ КАЛЯДЫ 25 СНЕЖНЯ

*Паважаныя суайчыннікі!*

*Шчыра віншую вас з вялікім хрысціянскім святам. Каляды — асабліва час для кожнага з нас. У гэтыя дні чалавек ад штодзённай мітусні накіроўвае свой погляд да Бога, звярае свае думкі і ўчынкі з вялікімі хрысціянскімі каштоўнасцямі.*

*Для Беларусі ніколі не былі характэрны рэлігійныя канфлікты. Католікі, праваслаўныя, пратэстанты — усе жылі ў міры і згодзе і працавалі поплеч. І сёння ў нас у краіне няма процістаяння вернікаў розных канфесій. Гэта вынік таго, што для пераважнай большасці беларускіх людзей вядучыя хрысціянскія каштоўнасці былі і застаюцца не проста словамі, а жыццёвымі прынцыпамі.*

*Наперадзе ўсіх нас чакае вялікая і складаная работа па будаўніцтву новай дэмакратычнай і эканамічна працвітаючай Беларусі. Вырашыць гэтыя задачы мы зможам толькі сумеснымі намаганнямі ўсіх беларускіх грамадзян, незалежна ад веравызнання.*

*Віншуючы вас з Калядамі, выказваю ўпэўненасць, што дух гэтых дзён, прасякнутых любоўю і мудрасцю, ніколі не пакіне вашы сэрцы.*

*Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.*

ГЕНЕРАЛЬНАЕ ПАГАДНЕННЕ

## ПАЙШЛІ НА КАМПРАМІС

У Мінску падпісана Генеральнае пагадненне на 1997 год паміж прафсаюзамі, урадам і работадаўцамі.

Генеральнае пагадненне падрыхтавана на прынцыпах, закладзеных у нацыянальнай праграме сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі да 2000 года. Параметры эканамічнага росту, прапанаваныя ўрадам, сталі асновай дагавора. Прафсаюзы вымушаны былі пайсці на пэўны кампраміс: у будучым годзе чакаецца нязначнае павелічэнне колькасці беспрацоўных — каля 5 працэнтаў. Сёлета на біржы працы ўжо зарэгістравана 218 тысяч чалавек — чатыры працэнты ад агульнай колькасці занятых.

У сваю чаргу, урад пайшоў таксама на частковыя ўступкі. У прыватнасці, у 1997 годзе на аздараўленчыя мэты будзе выдзелена 1,5 працэнта фонду аплаты працы. Захавана права займацца аздараўленнем працоўных за федэрацыяй прафсаюзаў.

ДЗІЦЯЧАЯ ТВОРЧАСЦЬ



"След чорнага ветру" — так называецца зборнік твораў школьнікаў Беларусі, напісаных на чарнобыльскую тэму. Больш сотні дзіцячых апавяданняў, сабраных у адну кнігу, уражваюць. Кніга выйшла ў свет напярэдадні 10-годдзя трагедыі, але сваёй актуальнасці не губляе і сёння.

НА ЗДЫМКУ: адна з аўтараў зборніка Алена КАВЕНКА (справа) з Рэчыцы са сваёй сяброўкай Таццянай МАЙСЕЕНКА і бібліятэкарам Галінай АСІПЕНКА.

АДРАДЖЭННЕ

## СВЯТЫНЯ БРЭСТА

У Свята-Мікалаеўскай царкве Брэста прайшлі ўрачыстасці з нагоды 90-годдзя з дня асвячэння храма.

Закладзены ў 1903 годзе на месцы выгарэлай драўлянай цэркаўкі, храм больш чым паўвека служыў людзям. Ён быў закрыты пры савецкім павальным атэізме і дваццаць гадоў прастаяў з шыльдай "Архіў". У канцы 80-х пачался яго адраджэнне. Перш чым вярнуцца да паствы, храм адзеўся ў будаўнічыя рыштаванні. Сёння Свята-Мікалаеўскі храм — святыня і жамчужына Брэста.

ЗДЫМАЕЦЦА КІНО



Добра вядомая мінчанам станцыя "Мінск-Усходні" ператварылася ў снежаньскія дні мінулага года ў здымачную пляцоўку "Беларусьфільма". У стужцы "Зала чакання" здымаюцца артысты Міхаіл Ульянаў і Вячаслаў Ціханаў, Ігар Касталеўскі і Мікалай Яроменка-старэйшы. Здымкі вядуцца па заказу Грамадскага расійскага тэлебачання. Здымае фільм вядомы маскоўскі рэжысёр Дзмітрый Астрахан, аператар — Юрый Райскі па сцэнарыі пецярбуржца Алега Данілава.

Стваральнікі спадзяюцца, што фільм захопіць тэлегледачоў не менш за мексіканскія серыялы. Здымкі працягнуцца на старадаўніх вулачках Мінска, у маляўнічых кутках Лошыцкага парку і ў асноўным — у студыйных павільёнах. Выхад фільма на тэлеэкраны планууецца ў сакавіку-красавіку.

НА ЗДЫМКУ: у перапынку паміж здымкамі акцёры Міхаіл УЛЬЯНАЎ і Мікалай ЯРОМЕНКА.

ПЛАТНАЯ ДАРОГА



На граніцы Беларусі і Расіі ўстаноўлены пункт збору платы за праезд па новай трасе Брэст—Мінск—граніца з Расіяй. За праезд на легкавым аўтамабілі плата — 2 долары, на грузавым — 20 долараў. Грошы бяруцца з усіх аўтамабілістаў, акрамя тых, чые машыны зарэгістраваны ў Рэспубліцы Беларусь.

НА ЗДЫМКУ: пункт збору платы.

ПЕРШАЯ СВАБОДНАЯ

## АДКРЫЦЦЁ ЗОНЫ

У канцы снежня адбылося афіцыйнае адкрыццё першай на тэрыторыі Беларусі свабоднай эканамічнай зоны (СЭЗ) "Брэст".

Як паведаміў першы намеснік міністра знешніх эканамічных сувязей Альберт Дабрамудраў, у рамках СЭЗ плануецца адпрацаваць механізм увядзення рыначных элементаў эканомікі, каб распаўсюдзіць атрыманы вопыт на ўсю рэспубліку. Асаблівую цікавасць, паводле яго слоў, выклікае магчымасць хуткага ўкаранення ў СЭЗ новых прагрэсіўных тэхналогій і арганізацыя выпуску канкурэнтаздольнай экспартнай і імпартазамяшчальнай прадукцыі.

З гэтай мэтай, адзначыў А. Дабрамудраў, для суб'ектаў гаспадарання, якія будуць дзейнічаць у СЭЗ, беларускім заканадаўствам прадугледжаны значныя падатковыя і мытныя льготы. Замежным інвестарам, у сваю чаргу, гарантуецца беспрашкоднае права на вываз за межы Беларусі прыбытку і капіталу, атрыманага ў выніку дзейнасці ў СЭЗ.

Паводле слоў першага намесніка міністра, "замежныя і айчынныя інвестары выказалі жаданне ўкласці ў развіццё СЭЗ "Брэст" каля 100 мільёнаў долараў ЗША". Сярод найбольш значных праектаў — арганізацыя вытворчасці прадуктаў харчавання і посуду, выпуск медыцынскіх і бактэрыяльных прэпаратаў, дыетычнага і дзіцячага харчавання, абутку, спартыўнага адзення.

ПЕРАКАНАЎЧЫЯ ЛІЧБЫ

## КУПЛЯЕМ БОЛЬШ

Па даных Мінгандлю Беларусі, у лістападзе рэзка ўзрос аб'ём рознічнага тавараабароту. У параўнанні з мінулагоднім лістападам прададзена тавараў на 42 працэнты больш. Прычым у Гомельскай і Гродзенскай абласцях гэты паказчык дасягнуў 57 і 51 працэнта адпаведна. На што ж налягае пакупнік?

Калі ў мінулым годзе доля прадуктовых тавараў у агульнай структуры тавараабароту складала 67 працэнтаў, то сёлета 64,3. Насельніцтва ўсё больш набывае складанабытавую тэхніку, бялізнавы трыкатаж, натуральныя тканіны і інш. А вось рэалізацыя адзення, радыёпрыёмных прыбораў, сінтэтычных мыючых сродкаў і туалетнага мыла падае.

ПЕРШАЯ АТАМНАЯ

## ПЕРААДОЛЕЦЬ ЧАРНОБЫЛЬСКІ СІНДРОМ

Як вядома, планы па будаўніцтву ў Беларусі атамнай станцыі існавалі даўно. Яшчэ ў 1988 годзе ў раёне Рудзенска павінна была ўвайсці ў строй АТЭЦ, але ў многім з-за трагедыі ў Чарнобылі будоўля была замарожана. З нядаўніх часоў праграма развіцця атамнай энергетыкі ў Беларусі атрымала новыя імпульсы. Як адзначыў міністр паліва і энергетыкі Валянцін Герасімаў, ужо абследавана 70 раёнаў рэспублікі з мэтай вызначэння месца пад узвядзенне АЭС. З іх, з пункту погляду бяспекі і патрабаванняў МАГАТЭ, выбраны толькі тры, што знаходзяцца ў Дубровенскім, Быхаўскім і Шклоўскім раёнах. У якім з іх пачнецца будаўніцтва першай атамнай станцыі, пакуль невядома. Але ўжо цяпер вядомы кошт падобнага праекта — амаль што 3,5—4 мільярды долараў. Па словах В. Герасімава, "грамадству чарнобыльскі сіндром трэба пераадольваць". Міністр таксама адзначыў, што ў ажыццяўленні гэтага праекта ўрад разлічвае на падтрымку і крэдыты буйных банкаў і фірмаў.

ВЫГАДНЫЯ КАНТРАКТЫ

Кобрынская швейная фірма "Лона", што выпускала раней верхняе адзенне, у пачатку 90-х гадоў аказалася без заказаў, а больш за тысячу яе работніц — без працы. Але такое становішча працягвалася нядоўга. Дырэкцыя, камерцыйныя структуры прадпрыемства знайшлі заказчыкаў у суседніх еўрапейскіх краінах. Тут шыюць курткі і камбінезоны для падарожжа ў гарах, якія заказала Францыя. Італьянская і чэшская арміі шыюць у Кобрыне ваенную форму. На 1997 год падпісана яшчэ некалькі выгадных кантрактаў.



НА ЗДЫМКУ: швачка Наталля СКРОБАТ рыхтуе камбінезоны для заказчыкаў з Францыі.

НОВАБУДОЎЛІ



На праспекце Будаўнікоў у Віцебску адкрыўся Дом гандлю "Амега" (на здымку). На трох яго паверхах размясціліся электра- і радыётавары, цацкі, канцылярскія і спартыўныя тавары, аддзелы адзення, абутку, галантарэі, парфюмерыі. Адзін з паверхаў заняты харчовымі таварамі.

АМНІСТЫЯ

## УКРАІНСКІЯ ВЯЗНІ ПАЕХАЛІ ДАДОМУ

20 снежня рашэннем спецыяльнай камісіі пяцёра грамадзян Украіны: А. Дрыгайла, В. Гоч, А. Бурлака, А. Міранюк, У. Салавей, якія былі асуджаны за ўдзел у "Чарнобыльскім шляху" 26 красавіка, датэрмінова вызвалены па закону аб амністыі. Яшчэ дваім — А. Шапціцкаму і С. Патапаву тэрмін зняволення быў зменшаны з 2 гадоў 3 месяцаў да 1 года 3 месяцаў. Украінскі консул у Мінску Міхаіл Маскаленка лічыць, што магчымае вызваленне і гэтых дваіх у канцы студзеня, калі яны адбудуць 1/3 свайго тэрміну, або ў горшым выпадку яны пакінуць сцены турмы 26 ліпеня 1997 года.

*АКАДЭМІК ФЁДАР АЛЯШКЕВІЧ*



# ПЛЁННЫЯ СОКІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Аказваецца, кліпсы — не толькі аксесуар жаночага або мужчынскага (здараецца) туалета. Але Бог з імі, з цацкамі.

Я пра іншыя кліпсы, што даражэйшыя за касметычныя і якія даваліся мне ўбачыць у руках урача даволі рэдкага лячэбнага профілю — нейрахірурга (па ўсёй Беларусі не налічыш і 80-ці такіх спецыялістаў).

Як вы ўжо здагадаліся, гэтыя заціскачкі з адмысловага металу для крываносных сасудаў ды ва ўмелых, чулых руках, што належаць галоўнаму нейрахірургу Міністэрства аховы здароўя прафесару Фёдару Аляшкевічу, служаць здароўю. Але якія б умелыя ні былі тыя рукі, яны выконваюць загады галавы. Бо хірург, і найперш нейрахірург, — гэта стратэг. Асабліва такі аўтарытэтны, як Аляшкевіч. У хітраспляценнях шэрага рэчыва, анамаліі якога ён выпраўляе, загадак — як у джунглях няходжаных.

Нейрахірург, вядома, мае пра іх уяўленне. Аднак ніводнаму з нас не прыйдзе на розум сцвярджаць, што спасцігнуты ўсе таямніцы таго космасу, што завецца homo sapiens. Тым больш, што размова закранула далікатную і найскладанейшую сферу — мозг. Не пабаюся сказаць, што хірург часта ідзе ўслепую, прабіраючыся ў нетры параўнальна малараскрытай прыроды складанай біялагічнай матэрыі. Тут да канца сам Бог не разбярэцца ў тым, што ён аднойчы стварыў.

...Фёдар Васільевіч, як нам падалося, быў не ў гуморы, хаця па ягоным твары не прабягала і ценю незадавальнення. Яно выявілася крыху пазней, калі яму прынеслі гісторыю хваробы жанчыны, якую ён апераваў пяць дзён таму.

За аперацыю ўзяўся сам, аддаючы даніну павагі адной з супрацоўніц клінікі: хворая даводзілася ёй маці. Абследаванне сведчыла, што выпадак не самы цяжкі. Дабраякасная пухліна ў левым паўшар'і галаўнога мозгу.

Не прайшло і двух дзён пасля аперацыі, а пачувала кабета сябе добра, гаварыла, слухала, пасміхалася.

...Званок парушыў хатнюю цішыню а адзінаццатай гадзіне вечара. Тэлефанавалі з бальніцы. Стан хворай рэзка пагоршыўся. Фёдар Васільевіч, не марудзячы, выехаў.

Новае абследаванне. Бяссонная ноч і раніца прайшлі за аперацыйным сталом. Выявілася нейкая незразумелая неспадзяванасць. Пасляаперацыйная рана выглядала, як і мусіла выглядаць. Ніякіх асаблівых "сюрпрызаў". Кровазліццё паразіла другое паўшар'е. Паразіла там, дзе і меркаваць ніхто не мог. Другая аперацыя не памагла. Пацыентка памерла на хірургічным стале.

Фёдар Васільевіч з гэтай непрыемнай нагоды прызначыў клінічную канферэнцыю. Нешта накшталт публічнага разбору здарэння з удзелам студэнтаў-практыкантаў. Я чуў, як ён па тэлефоне жорстка настаяў на прысутнасці студэнтаў у адказ на чыесьці ўшчуванні абмеркаваць смерць пацыенткі келейна. Для яго самога сталася загадкай гэтая смерць. Але ён, відавочна, не прывык хавацца, нешта ўтойваць. Думаю, тут праявіўся ў ім выхавальнік моладзі, педагог, які бачыць у студэнтах не столькі яшчэ прафесійна неразумных вучняў, не вартых пакуль пасвячэння ў запаветныя таямніцы, колькі малодшых калег, чыю думку або проста рэакцыю неабходна таксама ўлічваць. І не ратавацца за крывадушнымі адгаворкамі, сутнасць якіх выказана дасціпнай формулай: лячэнне прайшло паспяхова, але хворы памёр.

Так, і ў ягонай клініцы пацыенты паміраюць, куды дзенешся. Летась, напрыклад, з дзвюх тысяч апераваных памерла 292. Многія з тых, чый жыццёвы шлях абарваўся тут, атрымалі чарапныя траўмы ў розных здарэннях: дарожна-транспартных, бытавых. Падлік, такім чынам, гаворыць, што смерць, як вынік хваробы, знаходзіць сваіх ахвяр у бальніцы толькі ў чатырох працэнтах выпадкаў.

Пэўна, нездарма, хаця і нечакана для сябе, доктар Аляшкевіч (ён і сапраўды доктар медыцынскіх навук) у мінулым годзе атрымаў факс з Кувейта. Прасілі вылечыць і дапамагчы хвораму. Як лічылі там, безнадзейна хвораму, калі не возьмецца апераваць галоўны беларускі нейрахірург. І ён паляцеў на цэлы тыдзень. Рызыкнуў, бо і ў Кувейце разумеюць, што значыць глыбінная лакалізацыя анеўрызмы і што патрэбна нават больш за тыдзень на абследаванне, аперацыю, калі не позна, і на пасляаперацыйнае назіранне, нарэшце. Праўда, сам Фёдар Васільевіч і па сёння да канца не разумее, адкуль там вядомае яго імя, хаця і здагадваецца. Хутчэй за ўсё параіў хто-кольвечы з былых замежных студэнтаў, аспірантаў. Моладзь, асабліва з арабскіх краін, і дагэтуль імкнецца на вучобу ў Мінскі медінстытут, а там — у ардынатуру да загадчыка кафедры нейрахірургіі і неўралогіі МДМІ Фёдара Аляшкевіча, чыя клініка месціцца ў 9-й гарадской бальніцы.

Усе выдаткі на палёт і харчаванне ўзяў на сябе кувейцкі бок (роднае ведамства нават і капейкі не захацела плаціць, мала таго, залічыла тыдзень за кошт чарговага водпуску). І толькі адна праблема засталася: у прафесара не было ліцэнзіі, якая патрабуецца ў такіх выпадках згодна з міжнароднымі правіламі. Шэйх Кувейта рассек вузел проста — даў найвысачэйшы дазвол на аперацыю. Яна прайшла паспяхова. Між тым, мала хто ў свеце падобныя аперацыі робіць. Хіба што канадскі прафесар Дрэйк і яшчэ колькі нейрахірургаў — па пальцах пералічыш.

Гэтая аперацыя, як і ўсе іншыя, увойдзе ў лік тых 100—150, што складаюць гадавы рахунак галоўнага нейрахірурга краіны. Рэдкія дні выпадаюць без іх, затое бываюць такія суткі, што даводзіцца апераваць па тры-чатыры пацыенты.

А ўжо што тычыцца бясклапотных дзён, дык іх не бывае. То ён ездзіць па Беларусі, дапамагае, кансультуе, цікавіцца працай і патрэбамі медыкаў перыферыі. То сустракаецца з замежнымі калегамі на прадмет атрымання лекаў, апаратуры, іншага абсталявання і інструментарыя, якіх катастрафічна не хапае. Праўда, клініку самога прафесара, дзякуючы ягоным клопатам, удалося ўсё ж аснасціць няблага.

— Кашмар і сорам, — адзначае Фёдар Васільевіч. — Сваякі хворых вымушаны самі купляць ледзь не ўсё, аж да аднаразовых 'шпрыцаў, падкормліваць сваіх. Дайшло да таго, што не зробіш рэнтгенаграфіі: няма рэнтгенаўскай плёнкі. А як без здымка вызначыць месца анеўрызмы, гематомы? Такая вось нясцерпная рэальнасць. Ды горш за ўсё, — працягвае вучоны, — што медыкі не імкнуцца ў вучоныя. І вінаваціць іх у абыякавасці да навукі язык не варухнецца: інтэлектуальная праца абясцэнілася, за яе плацяць грашы. Тым не менш хачу адкрыць лабараторыю па трансплантацыі эмбрыянальнай тканкі мозгу. Праект — на зацвярджэнні ва ўрадавых структурах.

...Навагрудчына. Зямля, што дала Беларусі і свету шмат слынных імёнаў. Менавіта тут, у вёсцы Балотца, у сялянскай сям'і, наканавана было 60 гадоў таму нарадзіцца хлопчыку, які і не думаў-не гадаў, што стане калісьці свяцілам беларускай медычнай навукі і практыкі, правадзейным членам нацыянальнай Акадэміі навук. Што напіша шэраг прац па нейрахірургіі. Адну, падручнік, у сааўтарстве з сынам Аляксандрам, які пайшоў па дарожцы бацькі.

І хіба толькі родны сын?.. Плённыя сокі зямлі беларускай пакідаюць праз сваіх гадаванцаў добры след далёка за яе межамі...

**Раальд ЛЕВІН.**



# ПРЫЕМНЫ ГАРАДОК




(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**Прыемны гарадок — Шчучын. Невялікі, кампактны, утульны. Паглядзіце на здымкі — і, спадзяюся, ён вам спадабаецца.**

**А для мяне Шчучын — амаль радзіма. Да майго Скідзеля адсюль трыццаць кіламетраў. Роўная шырокая шаша. Навокал — якія лясы! Задумлівыя, мудрыя. Пабыць у іх — радасць, асалода.**

**І няхай Віктар Ставер ды я наведалі чарговы раз гэты сімпатычны горад у пахмурны, дажджліва-снежны дзень — ён зноў пакінуў добрае ўражанне.**

**Гісторыя горада багатая. З XVI стагоддзя мястэчкам валодалі магнаты Радзівілы, пазней, як пазначана ў Беларускай энцыклапедыі, Сцыпіёны, Друцкія-Любецкія. Магнаты мяняліся, а народ жыў і жыве. Мы ў гэтым пераканаліся на ўласныя вочы.**

**Прыемна, што ў Шчучыне берагуць гісторыю, помняць сваіх слынных землякоў. У горадзе пастаўлены помнік пісьменніцы Цётцы. Яна — адна з самых вялікіх прыхільніц беларускага адраджэння, нашай мовы, культуры, гісторыі. Спадчына яе пісьменніцкая да сёння хвалюе шчырых беларусаў.**

**Цяпер Шчучын — звычайны беларускі горад. Не вялікі і не малы. Жыццё ў ім таксама звычайнае. Народ пакуль не скардзіцца. Ва ўсякім разе, цэны намнога ніжэйшыя, чым у Мінску ці Гродне.**

**А калі шчыра — то што тут скажаш: добрая ціхая правінцыя. Пакуль дрэмле ў лёгкім паўсне. І дзяўчаты тут сімпатычныя, і мужчыны не дужа нахабныя, і ў магазінах можна купіць усё.**

*Мікола ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.*

*Фота Віктара СТАВЕРА.*

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

# РАМАНТЫЧНЫЯ ГУЛЬНІ КАПІТАНА ЯКУБОВІЧА

Батюшка! У вас остался сын, предостерегите его моим несчастным примером, бедственная жизнь моя усладится мыслию, что я своим трупом загородил пропасть, ужасную для неопытных".

Дакумент гэты па сутнасці сваёй поўны сапраўднага драматызму. Але калі чытаеш яго, цяжка вызваліцца ад уражання, што пісьмо напісана персанажам рамантычнай аповесці.

Аляксандр Якубовіч сапраўды існаваў у дзвюх іпастасях — храбрага да адчайнасці кавалерыйскага афіцэра, які талкова выконваў небяспечныя даручэнні генерала Ярмолава на Каўказе, і рамантычнага персанажа з адпаведнай фразеалогіяй і завышанымі рэакцыямі. Менавіта Якубовіч са сваімі выдатнымі якасцямі адыграў важную ролю напярэдадні 14 снежня 1825 года і ў дзень паўстання дзекабрыстаў.

У гэтых падзеях актыўна ўдзельнічала цэлая група людзей, у якіх былі асабістыя рахункі з імператарам Аляксандрам, што ў значнай ступені з'яўлялася падставай для іх рэвалюцыйнай актыўнасці. Якубовіч быў адным з іх.

У 1818 годзе яго выключылі з лейб-гвардыі Гродзенскага Уланскага палка і адправілі на Каўказ, як ён сцвярджаў, за секунданцтва ў дуэлі Завадоўскага-Шарамецева, што скончылася смерцю Шарамецева. Паколькі Завадскі, які паходзіў з уплывовай сям'і польскай знаці, увогуле не быў пакараны і адправіўся ў падарожжа ў Францыю, то Якубовіч заяўляў, што з ім абышліся несправядліва. Загад аб пераводзе Якубовіча з гвардыі быў падпісаны царом. (На самай справе загад аб яго пераводзе падпісаны быў да дуэлі. Прычынай паслужылі занадта бурныя паводзіны ўланскага карнета).

Капітан Якубовіч свядома ствараў вакол сябе атмасферу рамантычнай выбранасці і асуджанасці. Несправядлівая апала, што спыніла кар'еру, адчайныя ваенныя подзвігі ў каўказскай вайне, цяжкае раненне ў галаву, высокі рост, выразны твар, зычны голас — да ўсяго гэтага Якубовіч ахвотна дадаваў палітычную апазіцыйнасць.

Ён не быў рэвалюцыянерам. Ён быў франдзёрам. Але па ўзнікшых абставінах прымыкаў да перыферыі тайных таварыстваў. Аднак у пэўных сітуацыях рамантычнае пазёрства і вольнае ўяўленне заводзіла яго вельмі далёка. Загубленую кар'еру капітан Гродзенскага, а затым Ніжагародскага палка кампенсаваў незвычайнасцю асобы і лёсу.

Вясной 1825 года Якубовіч атрымаў водпуск для лячэння цяжкага ранення.

Аляксандр Бястужаў паказваў на следстве: "При поездке моей в конце апреля в Москву, для провожания е. в. принца Оранского, я встретился там с прежним моим приятелем Якубовичем. Он по всему замечательное лицо — и мы сошлись в приязнь... Либеральничали вместе, но друг другу совсем ещё не открылись".

Бястужаў ці то забыўся, ці то не хацеў занадта многа гаварыць на следстве аб маскоўскай сустрэчы. Сам Якубовіч гаварыў пра яе інакш: "Когда в разговорах с Бестужевым я выставил несправедливости правительства в отношении ко мне, объяснил ему состояние солдата, хлебопашца и дворянина, тогда он сказал о существовании общества, цель которого добродетелями, благородством и службой отечеству ввести новые благодетельные перемены и не допустить до решительного переворота государство, которое по всем признакам близится к сей эпохе, я восхитился этой мыслию, сказал: "Я ваш!"

З гэтага вынікае, што Якубовіч быў чалавек з ідэямі, які лічыў, што ў Расіі дрэнныя ўсе саслоўі, уключаючы і дваранства, і што ўмераны варыянт праграмы прымаўся думаючымі афіцэрамі безадмоўна.

Неўзабаве Якубовіч прыехаў у Пецярбург.

А сітуацыя ў пецярбургскім тайным таварыстве з 1821 года істотна змянілася.

Летам 1825 года ў Пецярбургу сустрэліся кіраўнік Паўночнага тайнага таварыства рамантычны паэт Рылееў і рамантычны герой капітан Якубовіч.

Якубовіч прыехаў у Пецярбург забіваць імператара Аляксандра. З-за вузкасці пецярбургскага кола яўных апазіцыянераў Рылееў і Якубовіч павінны былі сустрэцца — і сустрэліся. Рамантык-тэарэтык і рамантык-практык павінны былі спадабацца адзін аднаму — і спадабаліся. Але калі размова зайшла пра рэальныя палітычныя дзеянні — яны рашуча разышліся ў тактыцы.

Перад Рылеевым стаяў рамантычны герой-адзіночка, байранаўскі персанаж, які не прымае палітычную мітусню, але гатовы ахвяраваць сабой дзеля высокай ідэі. А натоўп можа карыстацца імкненнем яго подзвігу, калі хоча. Усё гэта ўразіла лідэра тайнага таварыства.

Тут трэба яшчэ помніць, што Якубовіч быў бліскучым прамоўцам. Дзекабрыст Аляксандр Мураўёў — у 1825 годзе юны карнет Кавалергардскага палка — пісаў ва ўспамінах: "Старший брат, Никита Муравьев, не позволял мне знакомиться с капитаном Якубовичем, боясь, чтоб он своим пленительным красноречием меня ещё больше не воспламенил..."

Між тым Якубовіч зусім не збіраўся імператара забіваць.

Злавесны антураж царазабойцы неабходны быў яму як элемент асаблівай атмасферы, што акружала яго.

Капітан Ніжагародскага палка, які насіў на сэрцы паўструхнелы загад аб пераводзе яго з гвардыі, наладжваў прадстаўленні перад Рылеевым і Аляксандрам Бястужавым і ў той жа час узмоцнена хадайнічаў аб сваім вяртанні ў лейб-гвардыі Уланскі полк.

Але зноў-такі не варта думаць, што Якубовіч проста фразёр і хвалько. Пабудаваны ім рамантычны свет быў для яго такі блізкі і натуральны, што ён гатоў быў рызыкаваць галавой, каб не дапусціць распаду гэтага свету.

На адным з допытаў у пісьмовым паказанні Якубовіч прапаноўваў расстраляць яго для прыкладу. І ён не мог быць упэўнены, што яго ахвяра не будзе прынята. Мікалай І па ваенных законах мог яго расстраляць. Там, дзе патрэбна была яго асабістая храбрасць, Якубовіч ніколі не пасаваў.

Рамантычная містыфікацыя каўказскага героя мела разам з тым вельмі сур'ёзныя станоўчыя вынікі: яна прымусіла лідэраў таварыства задумацца над магчымасцю раптоўнага ўзнікнення крызіснай сітуацыі, якая абавязала б іх дзейнічаць. Містыфікацыя Якубовіча, што ўзрушыла не толькі дзекабрысцкую Поўнач, але і Поўдзень, куды вестку аб намеры новага Брута прывёз па даручэнні Рылеева палкоўнік Брыген, прымусіла змоўшчыкаў цвяроза падлічыць свае сілы і падумаць аб канкрэтнай тактыцы ў канкрэтных умовах. Кантакты лідэраў таварыства з Якубовічам можна лічыць першай буйной падзеяй на гэтай апошняй прамой — у апошнім паўгоддзі перад паўстаннем.

Больш таго, сама прысутнасць Якубовіча ў сталіцы прывяла жыхароў Поўначы да думкі аб рэальнасці хуткага ўзброенага выступлення ў Пецярбургу.

Член тайнага таварыства палкоўнік Брыген сказаў на следстве: "Я уверен, что ежели бы не было Якубовича, то несчастное происшествие 14 декабря не случилось бы..." Гэта, відома, перабольшанне, але сэнс у ім ёсць...

## КАПІТАН ЯКУБОВІЧ У ДЗЕНЬ 14 СНЕЖНЯ

Прыйшоўшы з Маскоўскім палком на плошчу, Якубовіч прабыў там вельмі нядоўга. Рылееў і Пушчын, якія спяшаліся ў адзінаццаць гадзін да Сената, сустрэлі Якубовіча ля Сіняга моста на Адміралцейскай плошчы, а ён да таго паспеў пабываць на сенацкай гаўптвахце і пагаварыць з вартавым афіцэрам. Сам ён паказаў, што ўцёк ад маскоўцаў, як толькі карэ было выстраена і заряджаны ружжы.

Тое, што Якубовіч рабіў далей, да канца зразумець цяжка. Але можна паспрабаваць праанализаваць матывы яго ўчынкаў.

Якубовіч у сваіх дзеяннях 14 снежня зыходзіў са стратэгічнай задумы Баценкава. Баценкаў быў прынцыповым праціўнікам захопу палаца — Якубовіч сарваў гэтую аперацыю. Баценкаў быў прынцыповым прыхільнікам збору войскаў — пажадана за горадам — і мірных перагавораў з Мікалаем аб магчымых рэформах. У выніку дзеянняў Якубовіча і Булатава планаемая Трубяцкім наступальная тактыка ператварылася менавіта ў збор войскаў, праўда, не на Пулкаўскай гары, а ў цэнтры горада. Што ж да перагавораў з апорай на сабраных войскі, то Якубовіч і паспрабаваў ажыццявіць гэты пункт баценкаўскай праграмы. Нерашуча, расплывіста і нясмела, але паспрабаваў.

Што зрабіў Якубовіч у тыя нямногія хвіліны, калі быў ён на плошчы з маскоўцамі — пасля іх прыходу?

Аляксандр Бястужаў: "Он встретил Московский полк у Красного моста, потом был на площади и, сказав мне, что у него голова болит, исчез. Мы изумились, когда он явился парламентером". І усё. Для Аляксандра Бястужава Якубовіч знік з плошчы з прычыны галаўнога болю.

Міхаіл Бястужаў: "Якубович встретил бунтующих в Гороховой улице, кричал "ура!" Константину, взявши шляпу на саблю, когда же отстал от них и возвращался ли к ним, не знает".

Відавочна, Міхаіл Бястужаў, які выстройваў фасы карэ, звернутыя да Нявы і Сената, проста не бачыў Якубовіча на плошчы.

Пазней Якубовіч выравшыў пачаць перагаворы з Мікалаем. Ён зрабіў гэта без ведама і насуперак намерам лідэраў тайнага таварыства, таму што апошні варыянт плана Трубяцкога-Рылеева прадугледжваў перагаворы хіба што з ужо арыштаваным Мікалаем.

Для Мікалая мяцежнік, які раскаяўся, быў у той момант сапраўдный знаходкай. Пасля ранення Міларадавіча імператару і самому зусім не хацелася пачынаць размовы з паўстанцамі і пасылаць блізкіх да сябе людзей таксама. Натуральна было б яму прапанаваць Якубовічу ролю пасрэдніка. Калі Якубовіч на гэта разлічваў, то ён разлічыў дакладна.

Якубовіч не асмеліўся прадʼявіць Мікалаю канкрэтныя патрабаванні. Ён лавіраваў. Ён пастараўся запалохаць маладога цара, паведаміўшы, што "Московский полк почти весь участвует в бунте", што было перабольшаннем. Ён хацеў зразумець, ці схільны Мікалай да перагавораў, да ўступак ці не.

Мікалай загадаў Якубовічу прапанаваць мяцежнікам вярнуцца ў казарму ў абмен на амністыю. Якубовіч накіраваўся да карэ, размахваючы белай хусцінкай, яго сустрэлі крыкам "ура!". І ён сказаў сваім таварышам, што імператар іх баіцца, і параіў трымацца моцна.

Потым ён вярнуўся да Мікалая і паведаміў яму, што мяцежнікі "решительно отказываются признавать императором когоилбо, кроме великого князя Константина". Відавочна, мэтай гэтай "чаўночнай дыпламатыі" было падрыхтаваць момант для прапановы нейкага кампрамісу.

Мікалай на гэты раз прапанаваў Якубовічу растлумачыць мяцежнікам пазіцыю Канстанціна. Але Якубовіч разумеў, што заходзіць занадта далёка ў разыгрыванні сваіх нядаўніх саратнікаў не варта, і адмовіўся выканаць гэтае даручэнне. Замест яго пайшоў флігель-ад'ютант Дурнаво і ледзь не быў заколаты маскоўцамі. Тады Якубовіч зноў адправіўся ў карэ.

Усё гэта адбывалася прыблізна ад дванаццаці дваццаці да дванаццаці пяцідзесяці. Паколькі ад "стаўкі" Мікалая да маскоўцаў была сотня метраў, то паходы туды і назад займалі мінуты.

Дыпламатычная дзейнасць Якубовіча скончылася вельмі драматычна. Хутчэй за ўсё, у карэ разгадалі сэнс яго гульні.

Што адбылося ў карэ — невядома. Але ясна, што паўстанцы зусім нясхільныя былі ў той перыяд слухаць прапановы аб капітуляцыі і дараванні, — Міларадавіч быў цяжка паранены, а Дурнаво і Якубовіч ледзь не заколаты.

Хаджэнні Якубовіча спыніліся з прыходам лейб-грэнадзёраў Сутгофа. Выпадковае гэта супадзенне ці ж змянілася сітуацыя ў карэ, настрой паўстанцаў — можна толькі меркаваць.

Але безумоўна другое: з гэтага моманту Якубовіч лічыў учарашніх сваіх саратнікаў — ворагамі.

Якубовіча не было на плошчы, калі Кахоўскі страляў у Міларадавіча. Натуральна, знаходзячыся ўвесь час побач з плошчай, ён не мог не ведаць аб тым, што здарылася. Але да пары ён быў захоплены сваёй роллю пасрэдніка паміж урадам і мяцежнікамі. Калі ж гульня абарвалася так крыўдна для яго, то ён успомніў пра свайго сябра апошніх дзён.

Уласна, пераконваючы Мікалая ў непахіснай вернасці паўстанцаў Канстанціну, Якубовіч аб'ектыўна працаваў на Міларадавіча. Куля Кахоўскага разбурыла і гэты варыянт.

Паглядзеўшы на паміраючага Міларадавіча, Якубовіч, "весь красный и заплаканный, вполголоса начал проклинать "разбойников", совершивших это неслыханное подлое злодеяние..."

Калі і раней паўліберал Міларадавіч, дзеяч без пэўнай палітычнай праграмы, але храбрэц і рыцар, быў Якубовічу больш зразумелы і блізкі за Рылеева, Абаленскага, Трубяцкога, што засяродзіліся на сваёй ідэі, то цяпер — пасля разрыву з імі — ён, вядома ж, шчыра смуткаваў па паміраючым.

Якубовіч разумеў, у якім двухсэнсоўным выглядзе паўстане ён перад сучаснікамі і нашчадкамі, і на хаду ствараў рамантычную легенду.

Вядома, ён ні мінуты не думаў, што Рылееў ці Пушчын будуць спрабаваць забіць яго. Якубовіч паказаў на першым допыце: "Возвратясь домой и опасаясь бунтовщиков, зарядил оружие и не велел никого людям пускать к себе". Усе свае рамантычныя гульні Якубовіч гуляў усур'ёз...

Тры тысячы салдат стаялі на плошчы.

Дванаццаць тысяч — вакол плошчы.

Але паўстанцы паводзілі сябе больш пагічна. У чаканні цемнаты, далучэння да іх часткі войск яны вырашылі выбраць новага начальніка ўзамен тых, хто не прыйшоў. Яны больш не спадзяваліся ні на Трубяцкога, ні на Булатава, ні на Якубовіча.

А пятай гадзіне вечара карцеч збіла баявыя парадкі паўстанцаў. Салдаты і матросы беглі па набярэжнай, па Галернай, скакалі на лёд. Ад Коннагвардзейскага манежа двойчы ўдарыла батарэя.

Дзекабрысты спрабавалі аказаць супраціўленне. Мікалай і Аляксандр Бястужавы сабралі некалькі дзесяткаў гвардзейскіх матросаў у пачатку Галернай, каб адкінуць кавалерыю, калі яна будзе атакаваць тых, хто бяжыць. Але гарматы былі перакінуты да цэнтра плошчы. Па словах Мікалая Бястужава, "картечи догоняли лучше, нежели лошади, и составленный нами взвод рассеялся".

Ядры разбілі лёд, салдаты сталі тануць, і калона рассыпалася. Паўстанцы кінуліся да супрацьлеглага берага, куды ўжо імчалася па Ісакіеўскаму мосту кавалерыя...

Паўстанне было разгромлена.

Гарматы сталі рашаючым і неабвержным аргументам у палітычнай спрэчцы пра будучыню Расіі. Вельмі хутка — 3 студзеня 1826 года ў зімовым украінскім стэпе, пад вёскай Кавалёўка, батарэя, што біла карцеччу, спыніла і рассеяла мяцежны Чарнігаўскі полк. Адзіны паўстанцкі полк з тых сямідзесяці тысяч штыкоў і шабель, на якія разлічвалі правадыры Паўднёвага таварыства.

Гераічная спроба дваранскага авангарду вырваць лёс краіны з рук самадзяржаўя скончылася катастрофай.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**



# ЦІХАЯ НОЧ, СВЯТАЯ НОЧ

**Католікі Беларусі 25 снежня святкавалі Дзень Божага Нараджэння. Шматмоўна, светла і радасна было ў касцёлах, добразычлівасць і згода панавалі ў дамах. Нішто не перашкаджала людзям веруючым па традыцыі продкаў выконваць святочныя абрады.**

**НА ЗДЫМКАХ: набажэнства ў Дзень Нараджэння Хрыста ў касцёле Св. Сымона і Алены (Чырвоным касцёле) у Мінску.**

**Фотарэпартаж Віктара СТАВЕРА.**





ПІЦЕРСКІЯ НАВІНЫ

# АДКРЫЦЦЁ... ПРЫ АДКРЫЦЦІ

## (НАТАТКІ З ВЫСТАВЫ «БЕЛАРУСЫ Ў САНКТ-ПЕЦЯРБУРГУ»)

16 лістапада г. г. Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Санкт-Пецярбургу і Дзяржаўная культурна-асветніцкая ўстанова "Новы дом культуры" (Ісакіеўская плошча, зав. Антоненкі, 2) запрасілі сваіх сяброў і жыхароў горада на адкрыццё выставы "Беларусы ў Санкт-Пецярбургу".

У выставе прымалі ўдзел не толькі тыя мастакі, якіх ужо ведаюць на Бацькаўшчыне (Я. Чарнякевіч, В. Сівуха, Ю. Казак), не толькі тыя, што зрабіліся сябрамі суполкі крыху пазней (В. Драздоў, пра якога распавядаў у свой час "Голас Радзімы", А. Аўсянікаў), але і спадарожніцы мастакоў па жыцці — жонкі некаторых з іх, але гэткая "сямейнасць" аніяк не псавала агульнага ўражання ад выставы. Наадварот, выклікала пэўную цікавасць, спрыяючы больш цеснаму згуртаванню сяброў суполкі, бо, з аднаго боку, дапаўняла ўяўленне пра асобы мастакоў, ужо вядомых супольнікам, а з другога — пашырала кола прыхільнікаў беларускасці: нягледзячы на тое, што мастачкі — паходжання рускага, яны тым не менш так хораша "ўпісаліся" ў беларускае асяроддзе, што ніякай "чужароднасці" не адчувалася.

Янка Чарнякевіч паказаў 9 сваіх работ (свабодны роспіс і жывапіс), і вельмі шкада, што на гэту выставу не трапілі тыя работы, што экспанаваліся на папярэдняй яго выставе ў сценах Расійскай нацыянальнай бібліятэкі, якая святкавала 201 год свайго існавання сёлета (лепшыя з твораў былі набыты прыватнымі асобамі). Шкада таму, што Янка Чарнякевіч выказаў сябе ў тых работах сталым і цікавым мастаком, але абставіны сённяшняга жыцця часам прымушаюць творцаў ісці на "ахвяры" — прадаваць свае працы ў рукі тых, хто мае грошы, а дзяржаўныя музеі — з процілеглае прычыны — не могуць набыць у мастакоў тое, што іх цікавіць.

Вера Прохарава на гэты раз абмежавалася нацюрмортамі (пераважна з кветкамі), напісанымі ў рэалістычнай манеры, але свежа і разам з тым мякка, падкрэсліваючы гэтай мяккасцю тонкасць жаночай душы, прывабнасць яе ўнутранага свету.

Вітаўт Драздоў парадаваў пошукамі новага стылю: ад груваcткай стылізацыі пад даўніну ("Касцёл", "Палыч") перайшоў да сучаснай жывапіснай мовы. Асабліва ўражвае ягоны "Шэры канал", дзе мастак выдатна перадаў дух горада, у якім жыве.

Люба Сівуха (дарэчы, гэта яе дэбют на такіх выставах) здзівіла сяброў суполкі надзвычай цікавымі калажамі са скуры. Невялічкія па памерах, яны вабяць дакладнасцю колеру, тонкім густам і майстэрствам выканання, выклікаючы пачуццё замілаванасці да вёскі, да прыроды. Кожную з гэтых работ хочацца зняць са сцяны і панесці дахаты. І хаця, з аднаго боку, гэта кашчунства, то з другога — найлепшы доказ таго, чаго яны вартыя.

Творы Анатоля і Любы Аўсянікавых значна больш традыцыйныя, але і яны выклікаюць у гледача эмоцыі, адпаведныя настрою кожнай з карцін.

Казаку Пецярбургскаму (Юрыю Казаку) не адмовіш у шчодрасці, з якой ён "распэцквае" фарбы на сваіх палотнах, не адмовіш нават ні ў думцы, ні ў пачуцці, якія ён "уціскае" ў свае работы, але здаецца, што ён пайшоў тым шляхам, які не абяцае яму лаўраў: манера пісьма — звышразняволенасць і нібыта безліч эмоцый — падаецца не толькі штучнай на фоне сённяшніх мастакоўскіх пошукаў, але і крыху састарэлай.

Пра Віктара Сівуху, напэўна, трэба было б пісаць асобна, бо якраз ягоныя працы і з'явіліся адкрыццём на гэтай выставе. Хаця многія з работ выстаўляліся і раней, але ў такой колькасці і ў такой якасці — упершыню. Праўда, памяшканне не зусім адпавядала таму, як бы хацелася бачыць работы мастака, бо яны, перш за ўсё, патрабуюць прасторы — прасторы вакол сябе — тады яны глядзяцца лепей (калі адна работа не "перашкаджае" другой) — столькі эмоцый спрасавана ў кожнай з іх. Калі ж "уціснуць" іх у тую плошчу, якая была выдзелена, напрыклад, на гэтай выставе, то яны пачынаюць выпраменьваць "незадаволенасць" — ад такога блізкага суседства, — бо кожны колер, кожны кавалачак тканіны, з якіх зроблены калаж, патрабуюць сваёй прасторы дзеля таго, каб глядач здолеў адчуць, што нясе яму гэты колер — радасць, надзею, змрок, — каб ён не "паблытаў" гэту інфармацыю з той, якая ідзе ад суседняга палатна.

Увогуле, пра работы Віктара Сівухі немагчыма гаварыць звычайнымі словамі — настолькі ён паглыбляецца ў падсвядомасць, што патрабуюцца, напэўна, іншыя сродкі і іншая мова, каб той, хто не бачыў яго твораў, атрымаў хаця б прыблізнае ўяўленне пра тое, што распавядае нам мастак. Але самае лепшае — убачыць самому і падзівіцца, як падсвядомае, цьмянае і незразумелае набывае рэальныя формы — формы палотнаў, — і рэальныя людзі — гледачы — не могуць застацца абыякавымі, нават выпадкова апынуўшыся каля гэтых работ: інтэнсіўнасць колеру такая моцная, што спыняе позірк і прымушае нас зірнуць яшчэ раз і ўжо больш уважліва. І тады адкрываецца яшчэ адно: глыбіня пранікнення ў душу чалавечую, у яе таямніцы, у яе неспазнаныя куточкі, але гэта не "дастаеўшчына" — не блытаніна свядомага і падсвядомага на фоне безвыходнасці, як некаторым здаецца, — гэта новы крок у спазнанне таямніц душы.



У ягоных калажах (па сутнасці — своеасаблівых жывапісных палотнах), асабліва ў працах апошняга перыяду, неадменна прысутнічае Святло. І гэта Святло — нібыта падказка гледачу, як выбрацца з цянётаў Цемры, у якой можа апынуцца кожны з нас.

Віктару Сівуху гэты шлях вядомы не з тэорыі. Воляю абставін трапіўшы на ўскраек Прорвы (мастаку давялося перанесці вельмі складаную хірургічную аперацыю на пазваночніку) і адчуўшы на сабе ўладу і моц гэтай Прорвы, Віктар Сівуха, дзякуючы высокай кваліфікацыі піцерскіх ваенных урачоў і немалым асабістым намаганням, выйшаў пераможцам у сустрэчы з не надта ласкавымі да нас сіламі прыроды. І таму ён мае маральнае права гаварыць пра існаванне гэтых сіл, якія на першы погляд здаюцца неадольнымі.

І калі папярэднія яго работы былі напоўнены неспакоем, разгубленасцю, нават страхам перад гэтымі сіламі, то цяпер, асэнсаваўшы перажытае, мастак стварыў працы, у якіх не баіцца гаварыць пра існаванне гэтых сіл — нават у самім чалавеку! — але ставіцца да іх па-іншаму: ён ужо ведае, што не яны правяць баль, а тое, што робіць нас людзьмі — чалавечнасць, спагада, любоў...

І праз гэта апошнія яго работы — больш спакойныя (хаця казаць пра спакой адносна ягоных прац — нонсенс!), больш мяккія, больш стрыманыя, нават у сэнсе каларыту. Але колькі сілы і пераканання ў ягоных творах!

Мастак вядзе гледача за сабой, добра ведаючы, куды вядзе, але не кідае яго на раздарожжы — ідзі, куды хочаш! — а свядома і тактоўна даводзіць да той мяжы, адкуль чалавек здольны пайсці ўжо і самастойна. І гэты давер да гледача і ледзь прыкметнае, амаль незаўважнае развітанне з ім — а гледачу ўсё здаецца, што мастак яшчэ побач, — і напаўняе нашы сэрцы той свабодай, якой, магчыма, здольнае напоўніць толькі мастацтва.

Менавіта вось гэта, вышэйзгаданая якасць найлепшым чынам сведчыць, што ў беларускае мастацтва прыйшоў майстар, варты нашай агульнай увагі. І, напэўна, наспеў час пазнаёміць з ім і беларускага гледача. Хто гэта зробіць — ці Міністэрства культуры Беларусі, ці Дзяржаўны мастацкі музей — не так істотна. Істотней — іхняя згода наладзіць выставу Віктара Сівухі на Бацькаўшчыне — мо па лініі культурнага супольніцтва Расіі і Беларусі.

Са свайго боку, беларускае таварыства ў Санкт-Пецярбургу зробіць усё магчымае для ажыццяўлення гэтай задумы і паможа мастаку ў арганізацыі выставы на Беларусі.

**Анатоль КІРВЕЛЬ,**
**член Саюза беларускіх пісьменнікаў.**
Санкт-Пецярбург.



# НА СКРЫЖАВАННІ

*Калі надыйдзе час спачыну,*
*Адна ёсць просьба у зямлі:*
*Накрый мяне крылом арліным,*
*Крыло галубкі пасцялі.*

**Пятрусь БРОЎКА.**

З ранняй раніцы да позняе ночы праз кожныя некалькі хвілін у тралейбусах і аўтобусах гучыць адно імя: Пятрусь Броўка. Вуліца яго імя з шырокай магістралі Францішка Скарыны павольнай ручаінай узнімаецца на ўсход. Абодва палачаніны праз вякі сышліся на адным скрыжаванні.

Праз квартал, у ціхай Акадэмічнай вуліцы, на шэрым пяціпавярховым доме, — шыльда: "Выдавецтва Беларускай энцыклапедыі імя Петруся Броўкі". На скрыжаванні Ленінскай і вуліцы Карла Маркса, на будынку, абліцаваным мемарыяльнымі дошкамі, — музей Петруся Броўкі, вуліцы ў Полацку, Ушачах, музей у яго родных Пуцілкавічах. На кніжных паліцах бібліятэк і аматараў паэзіі стаяць тамы з цісненнямі на карэнчыках — Пятрусь Броўка.

Для маладых — гэта мінулае, яскравая і супярэчлівая, неадназначная з'ява ў гісторыі беларускай літаратуры, і вельмі паказальная. Па творчасці Броўкі можна прасачыць амплітуду нашага хісткага і няўстойлівага часу: яго творчая і чалавечая біяграфія ў многім супадае з гісторыяй нашага стагоддзя.

А для мяне — даўні, спачатку толькі знаёмы, потым старэйшы, мудрэйшы, вядомы ў людстве, шаноўны ў вярхах і ў нізах, аж няёмка прызнацца, проста — Пятрусь. Па якому праву, з якое ласкі такая фамільярнасць? Асаблівасць характару, душы, асобы, прастата Броўкі.

Знаёмства наша пачалося з далёкай даўніны: мне было сямнаццаць, яму — дваццаць пяць. У Беларусі не было прынята зваць па бацьку. Нават настаўнікаў звалі "цётка Шыманоўская", "дзядзька Курбыка". Пры першым знаёмстве з Броўкам выкручваўся, як звяртацца да яго. Дзядзька — вельмі ж малады, таварышамі звалі толькі начальнікаў. Ды і які ён мне таварыш? Ён гэта адчуў, рассмяяўся і кажа: "А ты не выкай. Заві проста Пятрусь." Так і ўсталявалася на ўсе часы.

А імя Броўкі выпадкова адкрыў у 1928 годзе ў полацкім альманаху "Наддзвінне". Апавяданні суседнічалі з вершамі і партрэцікамі аўтараў. Адразу ўвагу спыніў светлавалосы, у вышыванай кашулі юнак і раней не чутае прозвішча — Пятрусь Броўка і вершы адметныя меладычнасцю, шчырасцю і маляўнічасцю. У тонкасцях паэзіі я тады не разбіраўся, усё надрукаванае лічылася дасканалым, але адно падабалася больш, другое менш. Неўзабаве вершы і паэмы Броўкі замільгалі ў сталічных часопісах і газетах, імя станавілася папулярным. Асабліва ўразіў верш "Зямля". Я і сам ужо нешта крэмзаў і нават друкаваў. Каб наблізіцца да літаратурнага асяроддзя, перабраўся ў Бабруйск, — качаў тачку ў тры змены на дрэваапрацоўчым камбінаце, туляўся ў чужых запеччах, але быў у акруговай літаратурнай "сталіцы" з Лыньковым, рэдакцыяй "Камуніста" і дадатку "Вясна". Да альманаха "Уздым" не дарос.

Як патэнцыяльнаму няўдачніку, увосень 1930 года собіла мне на станку адфугаваць мезенец на левай руцэ і прыехаць на месяц дамоў па "бюлетэню". Была шэрая, дажджлівая і гразкая восень. Нечакана на балаголе прыязджаюць з Бабруйска мой стрыечны брат маладняковец Янка Бобрык і Пятрусь Броўка. Яны "выцягвалі з прарыву" Добрушскую папяровую фабрыку "Герой працы" і па дарозе ў Мінск адскочылі ў Глуск да Янкавых бацькоў. Праз нейкую гадзіну я ўжо быў у дзядзькавай на чатыры акенцы хатцы. Сюд-тут забягалі суседкі нібыта пазычыць рэшата ці солі, а па праўдзе, паглядзець на сталічных гасцей і не абы-якіх, жывых паэтаў.

Янка гаварыў са мною трошкі паблажліва і прадставіў свайму сябру як чарговую літаратурную "кадру". Пятрусь усміхаўся: "Хай расце, можа што і вырасце". Ён быў ладны, статны, ружовашчокі і светлавалосы з рыжынкаю, меў звонкі раскацісты голас, дасціпны жартаўнік і весялун. На ім быў прыгожы светлы пуловер з зялёнымі ромбікамі, белая кашуля і стракаты гальштук. Ён распытваў у мяне, як жыве бабруйская літаратурная брацiя. Ён ведаў Мікуліча, Шынклера, Зарыцкага па публікацыях у Мінску, дзе працуюць, што пішуць. Што я мог сказаць? І на бабруйскіх "класікаў" пазіраў знізу ўверх. Адказваючы, не ведаў, як звярнуцца да сталічнай славутасці. Ён заўважыў маю разгубленасць, усміхнуўся і зноў сказаў: "Не выкручвайся, хлопча. Пятрусь я, Пятрусь." З тае пары я пасмялеў і цікавей і натуральней пайшла гаворка. Я прагна лавіў кожнае слова Янкі і Петруся пра сталічных паэтаў. Яны іх называлі памяншальна і ласкава — Валодзя, Тодзік, Валька, Нонік (так звалі Глебку). Успаміналі анекдатычныя факты, прыдумлялі эпіграмы і пасылалі на пацешных паштоўках.

Вечарамі Пятрусь з Янкам хадзілі ў завулак за царквою да маладой абаяльнай настаўніцы Ніны Войтка. Яе набожную маці часта адведваў адукаваны, дасведчаны і тактоўны святар Аляксей Стаўровіч. Ён ведаў не толькі "Свяшчэннае пісанне", але і творы класікаў марксізму. Часам айцец Аляксей гуляў з паэтамі ў "дурня" і ў "ачко". Потым Броўка захапляўся папоўскаю эрудыцыяй, палемічным талентам і дасціпнасцю, часам жартаваў: Ён дасць яшчэ па два дурні па "Анты-Дзюрынгу", і падамося ў манахі".

Неяк Янка з Петрусём угаварылі паказаць ім свае вершы. Мне і хацелася і было боязна знішчальнай крытыкі сапраўдных паэтаў. Тады самаю папулярнаю і патрэбнаю для друку была індустрыяльная тэматыка, а я ж — "рабочы клас". Каб трапіць у друк, пісаў пра "Турксіб", якога зроду не бачыў, пра "галілеевы ланцужкі" на даўбёжным станку, прыметнік здаваўся вельмі ж паэтычным. Паслухаў Броўка і шчыра сказаў: "Што ж, браце, рыфмаваць навучыўся. Для камбінацкай шматтыражкі тое, што трэба, а "поэзия — пресволочнейшая штуковина, существует ни в зуб ногой". Чытай болей. Твае настаўнікі — на кніжных паліцах, а калі ёсць чулая душа, будуць і сапраўдныя вершы. А праца гэта катаржная: паэт ніколі не выключаецца. Можа што ёсць без жалеззя? Я прачытаў "Сінія азёры". О, тут нешта ёсць. Давай, пішы. (Праз паўвека гэты верш стаў песняю. Часам гучыць і цяпер).

Дні праз тры абодва паэты паехалі ў Мінск. "Героя працы" з прарыву так і не выцягнулі, а мяне агарнуў сум і спусташэнне. Я ганарыўся, што знаёмы з сапраўдным папулярным паэтам, потым у Бабруйску хваліўся сваім сябрам.

Праз год, ледзь акрыялы пасля брушнога тыфусу, я ўсё ж адважыўся прабівацца ў сталічную літаратуру — без адукацыі, без пэўнага прытулку, без грошай, без вартых увагі публікацый і спецыяльнасці ўсё ж прыехаў у Мінск. Галодны 1931 год: служачаму — 150 грамаў хлеба на дзень, студэнту — 300, рабочаму — 600, на ўсё — картачкі, а ў мяне ні работы, ні службы, ні картачак. Дагрызаў маміны сухары, сушаны сыр і каштаваў скрылёк сала. Але мацней за голад і безнадзейнасць была прага да літаратуры. Ведаў, што сваім "талентам" паэзію не ашчасліўлю, але быць каля пісьменнікаў, бачыць і чуць жывых Купалу, Коласа, Чарота, Гартнага, Бядулю, маладых, вядомых і любімых завочна.

У маёй палескай далечы Дом пісьменнікаў уяўляўся асаблівым палацам, а на Савецкай вуліцы, дзе цяпер кафэ "Вясна", стаяў шэры, нязграбны, з дахам на два бакі над мезанінам двухпавярховы дамок з асветленым сутарэннем. Я спыняўся непадалёк ад дзвярэй, прыглядаўся, хто заходзіць і выходзіць. Гэта ж пісьменнікі, а яны не адрозніваюцца ад астатніх. Некаторых пазнаваў па партрэтах у кніжках і ў падручніках, а зайсці не адважваўся. Паткнуўся ў цёмныя сенцы, азірнуўся і — назад, каб не пыталіся, хто такі і што трэба. Нарэшце наважыўся — зайшоў. У пярэднім цемнаватым пакоі вешалка, праворуч светлы пакой з дзвюма цыратовымі канапамі, пасярэдзіне круглы стол пад зялёным настольнікам, на ім — газеты, каля шкляных дзвярэй на балкон — шахматны столік і два крэселцы. З левага боку ад уваходу — невялікая зала: радамі канцылярскія крэслы, у канцы падмосткі з трыбунаю і сталом прэзідыума.

У глыбіні было яшчэ два пакоі. У адным Кандрат Крапіва рыхтаваў чарговы нумар "Узвышша", а за сталом насупраць Сцяпан Ліхадзіеўскі рэдагаваў "Маладняк". Суседні, меншы пакойчык лічыўся "творчым кабінетам". Яго па чарзе займалі пісьменнікі, якім не было дзе прытуліцца і папісаць. Вось тут я і сустрэўся з Броўкам. Ён выйшаў з вузкімі паскамі жоўтай паперы, спісанымі і скрэсленымі дробным почыркам. Там пісалася ранняя паэма "Так пачыналася маладосць" пра мінскі камсамол. Відаць, ён нешта хацеў прачытаць Ліхадзіеўскаму, але ўбачыў і пазнаў мяне. Павітаўся, спытаў, ці надоўга прыехаў. Я маўчаў. "Калі хочаш тут зачапіцца, ведай, як гэта цяжка. Брацец твой Яначка з'ехаў вучыцца ў Маскву. Хто ж табе дапаможа? Чашы ты ў выдавецтва да вашага бабруйскага класіка. Ён загадвае рэдакцыяй, можа куды прыткне". І сапраўды Лынькоў дапамог: пасадзіў у вялікі светлы пакой карэктарскай, выгараджанай зашклёнымі невысокімі шчытамі. Сталы стаялі ўпрытык. У кутку пры акне сядзеў дробнатвары, невысокі, у пенснэ, амаль зусім глухі аўтар расійска-беларускага слоўніка Мікалай Байкоў. Яго тоўсты з пазакручванымі ражкамі старонак фаліянт ляжаў на кожным стале. З пісьмовымі пытаннямі ішлі да яго, ён ветліва тлумачыў кожнае слова.

Туляўся я ў розных закутках на Камароўцы, а вечарамі хадзіў у Дом пісьменніка. Многіх ведаў, некаторыя ведалі і мяне. З трыбуны гучалі новыя вершы і паэмы, іх абмяркоўвалі, крытыкавалі, спрачаліся, аж ляцела пер'е. Прысуд выносілі Бэндэ і Кучар, часам іх катэгарычнасць змякчаў Якаў Бранштэйн. Астатнія панура маўчалі. Бэндэ хадзіў ва ўсім вайсковым, з пісталетам на шырокай папрузе і гаварыў толькі па-руску. Так ён да канца дзён не загаварыў на мове, літаратуру на якой вынішчаў і калечыў.

На ўсіх вечарах з нязменным поспехам выступаў Пятрусь Броўка. Ён чытаў звонка, натхнёна, з сапраўдным артыстызмам. Яго "Зямля", "Праз горы і стэп" нечаканай рытмікай, густой вобразнасцю, эмацыянальным напружаннем хвалявалі аўдыторыю. Сябраваў ён пераважна з равеснікамі, асабліва (і на ўсё жыццё) з Глебкам, Хведаровічам, Кляшторным, Хадыкам, Скрыганом — зусім рознымі па творчай манеры, стылістыцы, накірунку творчасці. У паэме "Прамова фактамі" Броўка з добраю таркаю прайшоўся па творах Міколы Хведаровіча, але гэта не замінала быць сябрамі, Мікола пасьміхаўся: "Гэта ж Пятрусь робіць мне рэкламу". За праўду, сказаную ў вочы, не радаваліся, але і не надта крыўдавалі.

Пятрусь быў па-маладому шчыры, вясёлы і кампанейскі, не абмінаў, па сённяшніх мерках, бядняцкія застоллі на разасланай газеце або ў цёмнай баковачцы пісьменніцкай сталоўкі. Праз акенца на тратуары былі відны чаравікі, шырокія калашыны, панчошкі на зграбных ножках. Броўка станавіўся душою такіх застолляў — умеў сказаць, скаламбурыць, пажартаваць і заспяваць. У такія кампаніі я рэдка трапляў, але даводзілася. Я добра разумеў сваю недасведчанасць, неадукаванасць, правінцыяльную скаванасць, слухаючы глыбокадумнага Глебку, дасведчанага Алеся Дудара, эрудыта, свайго бабруйскага таварыша Барыса Мікуліча, трыбуна Андрэя Александровіча. Разумеў: без адукацыі нікуды не варты. Даволі лёгка паступіў на газетна-выдавецкае аддзяленне літфака Вышэйшага педагагічнага інстытута імя Горкага. (Чаму Горкага? Ён жа інстытутаў не канчаў, а сотні інстытутаў і школ, амаль усе тэатры краіны насілі яго імя).

Узялі мяне на работу ў "Чырвоную змену", а ў інстытут хадзіў у другую змену, пасля заняткаў бег зноў у рэдакныю, вечары ў Доме пісьменніка стараўся не прапускаць. Броўку сустракаў мімаходзь: ён заўсёды некуды спяшаўся — павітаецца на хаду і пабег. Часам спытае: "Ну як? Агледзеўся трохі? Працуеш і вучышся? Гэта добра. Малайцом. Прабач, бягу". Нездарма Кузьма Чорны называў яго: "Мілы трапятун". Заўсёды ў руху, а кніжкі выходзілі адна за адной: "Каландры" — аповесць пра добрушскіх папяровікаў, зборнікі вершаў "Цэхавыя будні", "Гады, як шторм", "Прамова фактамі", "Так пачыналася маладосць". Броўка трымаў руку на пульсе жыцця, адпавядаў патрэбам часу, шчыра зарыфмоўваў заклікі партыі на добрым прафесійным узроўні. Без гэтага ніводзін зборнік не мог выйсці ў свет. Паэт, як і большасць яго суайчыннікаў, памыляўся, але верыў прапагандзе з дзён сваёй камсамольскай маладосці.

Я часам прасіў што-небудзь новае для "Чырвонкі". Калі абяцаў, ніколі не забываў свайго абяцання. Абавязковым, дакладным, верным слову ён прайшоў усё жыццё. У гэтым я пераканаўся мноства разоў тады і пасля, у часе блізкіх стасункаў, сустрэч і работы побач з Пятром Усцінавічам. Мне здавалася, што Броўка жыве ў добрай, як тады казалі, жактаўскай кватэры з усімі выгодамі і ні ў чым не мае патрэбы. І, вядома, горка памыляўся. Купала і Колас жылі ў сваіх драўляных дамках з садкамі, дрывотнямі і цаглянымі печамі. Маладзейшыя здымалі пакойчыкі і катушкі ў мінскіх старажылаў у Заваказллі, на Камароўцы, Грушаўскім пасёлку. Таўбін, Астапенка і Куляшоў жылі ў адным пакойчыку на вуліцы Розы Люксембург. Броўка кватараваў за вакзалам на цёмнай і гразкай, але "Красівай" вуліцы. У 1957 годзе Броўка ўспомніў яе:

**Стаялі там хаты малыя, маркотныя,**
**Зялёнымі хусткамі хутаў іх мох,**
**Чаму яе звалі назвай пяшчотнаю,**
**Ніяк зразумець я ў юнацтве не мог.**

**Небрукаваная і непралазная,**
**Дзе цемра, бывала, да ранку стаіць...**
**А смутак па ёй адчуваю выразна я,**
**І сэрца нявызнаным болем шчыміць.**

Сэрца шчымела па маладосці, па сябрах, што разам кватаравалі ў хаце цешчы універсітэцкага таварыша Алеся Пальчэўскага. Працаваў ён у рэдакцыі нейкага тонкага ведамаснага часопіса, але хадзіў заўсёды ў добрым гарнітуры, модных чаравіках і ў капелюшы, а гэта ўжо была адзнака прыналежнасці да пісьменніцтва...

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**

(Працяг будзе).

## *ЮБІЛЕІ*



**Звання заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь удастоены акцёр Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Генадзь ШКУРАТАЎ (на здымку), які аддаў сцэне два дзесяткі гадоў жыцця. За гэты час ім сыграна нямала ролей у спектаклях "Рамэо і Джульета", "Кароль Лір", "Касатка", "Радавыя" і іншых.**

**Вядомы ён і як кінаакцёр. За выкананне ролі Паўла ў фільме "Хам" Шкуратаў удастоены міжнароднага "Оскара".**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

## НА РАДАСЦЬ РАБОТА І ЖЫЦЦЁ



**На выставе "Калядныя ўзоры" ў Мінску навагодняя ёлка была ўпрыгожана мініяцюрнымі цацкамі з саломы, зробленымі народнымі майстрамі. З іх сорак арыгінальных цацак былі выкананы Ганнай Івановай — майстрыхай з Сенніцы. Жыццё яе доўгі час было звычайным. Спачатку працавала прадаўцом, але работа не прыносіла задавальнення. Выпадкова Ганна прачытала кнігу аб саломапляценні, стала майстраваць простыя вырабы. І тут лёс звёў з Верай Салдатавай, вядомым майстрам саломапляцення, і душэўным чалавекам. Галоўнае, чаму яна навучыла яе, — уменню падыходзіць да работы творча, рабіць сваё, арыгінальнае,а не капіраваць.**

**Ганна захапілася вырабам кветак, але змагла знайсці свае выяўленчыя сродкі, што зрабілі яе работы непадобнымі на іншыя. Ганна працуе з вельмі тонкай саломкай, якая дазваляе дасягаць прыгажосці вырабаў. Ганну Іванову прынялі ў члены Саюза майстроў народнай творчасці Беларусі.**

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Ганна ІВАНОВА і яе работы.**



# КНІГІ ВУЧЫЛІ ЛЮДЗЕЙ

**(Заканчэнне.**
**Пачатак на 1-й стар.).**

гэтых складаных умовах прадоўжылі працу па вывучэнню выдатных волатаў беларускай навукі.

Мяркую, што з пазіцый "пазакласавага аб'ектывізму" чытачам будзе цікава аднавіць у памяці, хто такі быў Лаўрэнцій Зізаній Тустаноўскі. Нарадзіўся ён у канцы 50-х — пачатку 60-х гадоў XVI стагоддзя ў сям'і небагатай шляхты. Месцам яго нараджэння маглі быць Вільня і Львоў, а таксама мястэчка ў Галіцыі. Прозвішча Зізаній (у перакладзе з грэчаскай азначае "кукаль" — "пустазелле") ён атрымаў у ходзе рэлігійнай барацьбы з уніятамі і езуітамі. Для гуманістаў гэта было звычайнай з'явай. Вучыўся ў Астрожскай, а потым Львоўскай брацкіх школах. Вядома, што да 1592 года Лаўрэнцій Зізаній працаваў настаўнікам царкоўнаславянскай і грэчаскай моў у Львоўскай брацкай школе. Далей яго жыццёвы шлях прывёў у Брэст на Беларусь, дзе ён, як дасканалы педагог, працаваў у брацкай школе і рыхтаваў вучэбныя кнігі, якія былі неабходныя для пашырэння адукацыі сярод славянскіх народаў. Ён актыўна выступіў на Брэсцкім саборы 1596 года ў абарону праваслаўя супраць уніі.

Тады ж ён быў запрошаны для выкладання ў Віленскую брацкую школу. Тут Лаўрэнцій Зізаній выкарыстаў Святадухаўскую брацкую друкарню для выдання сваіх вучэбных кніг.

"Азбука" Лаўрэнцыя Зізанія — гэта невялікага фармату кніжка ў скураным пераплёце, на медных зашчынках. У яе змест уваходзяць: алфавіт, матэрыял, які вучыць чытаць і пісаць, малітвы і "Лексіс" — кароткі слоўнік. Умоўна гэтую кнігу можна падзяліць на тры часткі. Першая — матэрыял, які вучыць чытаць і пісаць, другая — дапаможны лексічны матэрыял, што ўваходзіць у "Лексіс", і трэці — духоўныя тэксты і малітвы. Складальнікам *першых* дзвюх частак быў Лаўрэнцій, апошняй — Стэфан Зізаній. Выкарыстоўваючы вопыт сваіх папярэднікаў, Лаўрэнцій Зізаній зрабіў добры дапаможнік для першапачатковага вывучэння царкоўнаславянскай і гутарковай мовы таго часу. Стэфан Зізаній напісаў сваю частку з палемічным запалам і выкарыстаў гэты падручнік у дыскусіі з епіскапатам і уніяцкім духавенствам. Гэтая частка можа быць аднесена непасрэдна да палемічнай літаратуры.

"Лексіс" — слоўнік царкоўнаславянскай мовы з тлумачэннем слоў жывых, народнаю моваю. Ён быў тым мостам, які рабіў зручным пераход да вывучэння беларускай мовы. З'яўленне такога слоўніка выклікалася таксама неабходнасцю наблізіць навучанне ў школе да жыцця. Лаўрэнцій Зізаній у "Лексіцы" даў у рэестры 1 061 слова з кніг Біблії і жыццёвага ўжытку, а пры перакладзе — больш як дзве тысячы слоў з гутарковай мовы.

Слоўнік меў свецкі характар, таму ў ім ёсць самыя разнастайныя звесткі па ваеннай гісторыі, прававым становішчы розных сацыяльных груп насельніцтва ў дзяржаве, па філасофіі, геаграфіі, этнаграфіі, біялогіі, медыцыне, а таксама некаторыя звесткі па матэматыцы. У "Лексіцы" можна знайсці матэрыял аб рамесніцкіх прафесіях, апісанне вырабаў, якія ішлі на гандаль.

Лексічная праца Лаўрэнцыя Зізанія — адна з крыніц нашага ўяўлення аб узроўні ведаў той пары. Яна сведчыць, што ў жыцці аўтара свецкія веды адыгрывалі станоўчую ролю. Лаўрэнцій Тустаноўскі рацыяналістычна падыходзіў да вывучэння розных з'яў рэчаіснасці. Тут у яго праявіліся гуманістычныя тэндэнцыі, якія вызначаліся ў асобым, новым раскрыцці ўсяго навучальнага матэрыялу. Трэба быць праўдзівым і адзначыць, што тлумачэнні, якія аўтар робіць у сваім слоўніку, вельмі часта далёкія ад навуковага аналізу ўсіх з'яў і паняццяў, але ён імкнуўся проста, па-зямному растлумачыць многія словы і паняцці, якія ўвайшлі ў "Лексіс".

Каб "Азбука" ўспрымалася больш даходліва, у ёй змешчаны прыгожыя і ёмкія застаўкі, ініцыялы і канцоўкі, якія раней належалі друкарні Францыска Скарыны ў Вільні. У кнізе 6 заставак з чатырох дошак, 7 ініцыялаў з шасці дошак. Усё гэта рабіла вучэбную кнігу прывабнай для навучэнцаў і іх родзічаў.

"Азбука" Лаўрэнцыя Зізанія мае вялікае значэнне ў гісторыі адукацыі і культуры не толькі Беларусі, але і ўсяго славянскага свету. З асобым імпэтам яна вывучалася на Украіне.

Агульнаграмадскім сцвярджэннем неабходнасці вывучэння сямі "вызваленых мастацтваў", іх вялікай ролі ў развіцці сярэдневяковай адукацыі быў выхад "Граматыкі словенскай" Лаўрэнцыя Зізанія. З першых лістоў навучальная кніга раскрывае перад вучнямі грамадскую неабходнасць свецкіх ведаў. Робіцца гэта праз вершаваную "Эпиграмму на грамматику"


ЄПІГРАММА.
На Граматіку.


ГРАММАТІКА
СЛОВЕНСКА

і праз "Послание студеом (вучням. — **А. Б.**) изрядным и всем любителям доброглаголеваго и пространнаго словенскаго языка".

Лаўрэнцій Зізаній лічыў граматыку тым падмуркам, на якім можа трымацца далейшае вывучэнне розных навук. Ён імкнуўся па-філасофску асэнсаваць ролю граматыкі як навукі ў сярэдневяковай сістэме ведаў. Аўтар раскрывае арганічную сувязь граматыкі з рыторыкай, філасофіяй і багаслоўем.

У граматыцы ўсе часткі лагічна звязаны паміж сабой. Яна зроблена ў форме пытанняў — адказаў. Назвы раздзелаў граматыкі Лаўрэнцій Зізаній тлумачыць вельмі проста: арфаграфія — "правописание", прасодыя — "припело", этымалогія — "истинословие" і сінтаксіс — "сочинение". У першым раздзеле "Граматыкі словенскай" разглядаецца арфаграфія. Другі ее раздзел называецца "Просодия", якая "ест ударение гласа писменнаго". На ўсіх словах у падручніку пастаўлены націскі. У раздзеле "Просодия" Лаўрэнцій Зізаній дае стройную сістэму вершаскладання. Ён адышоў ад грэчаскага, гэта значыць метрычнага вершаскладання, заснаванага на чаргаванні кароткіх і доўгіх складаў, і ўводзіць рыфмаваную страфу і белы верш, у якіх націск захоўваецца ў канцы. Вучэнне Лаўрэнцыя Зізанія аб вершаскладанні ўвайшло ў граматыку Мялеція Смарыцкага. У трэцім раздзеле граматыкі "Этимология" разглядаецца восем часцін мовы: "различие", "имя", "местоимя", дзеяслоў, дзеепрыметнік, прыназоўнік, прыслоўе, злучнік. Сінтаксіс не выдзелены ў асобны раздзел. Правілы аб знаках прыпынку размяшчаюцца ва ўсіх раздзелах граматыкі, асабліва іх многа ў "Просодии".

Усе правілы ў граматыцы суправаджаюцца вялікай колькасцю прыкладаў. Аўтар імкнуўся да таго, каб кожнае правіла маглі разумець вучні і кніга прымушала іх думаць над тым ці іншым палажэннем, дапамагала прыходзіць да правільных высноў.

Друкары гэтай вучэбнай кнігі выкарысталі скарынінскія аздобы, каб яна прыгожа выглядала.

Граматыка Лаўрэнцыя Зізанія адыграла вялікую ролю ў развіцці адукацыі сярод славянскіх народаў. Гэта вучэбная кніга паслужыла ўзорам для вядомай граматыкі М. Сматрыцкага. Граматыкі леглі ў аснову славянскай граматыкі Юрыя Крыжаніча, выдадзенай у Табольску ў 1666 годзе і "Российской грамматики" М. Ламаносава, надрукаванай у 1755 годзе. Пад уплывам гэтых вучэбных кніг быў балгарскі вучоны Х. Дурнічанін, які таксама каля 1840 года выдаў граматыку.

Але гэта прызнанне ў свеце "Граматыкі словенскай" Лаўрэнцыя Зізанія было закрэслена беларускім гісторыкам Л. Абэцэдарскім, які патрабаваў скінуць супервокладку з кнігі "Белорусский язык для небелоруссов", якая выйшла ў выдавецтве "Вышэйшая школа" ў 1973 годзе. На супервокладцы было надрукавана: "Граматіка есть певное ведане жебымы добре мовили и писали. Лаврентий Зизаний XVI век". І такая агідная справа была зроблена, хаця выдавецтва панесла вялікія страты. Ідэалогія цемрашалаў узяла верх над светлай думкай асветніка XVI стагоддзя.

Аднак працягнем размову пра жыццё Лаўрэнцыя Зізанія. У Вільні ён падвергся ганенням з боку уніятаў і езуітаў і неўзабаве вымушаны быў пераехаць у Баркулабаў (Беларусь) да князя Багдана Саламярыцкага, дзе працаваў настаўнікам яго сына да 1600 года.

Потым лёс яго склаўся так, што ён апынуўся на Украіне, дзе працаваў хатнім настаўнікам у сыноў князёў Аляксандра Астрожскага і Якіма Карэцкага.

З 1618 года Лаўрэнцій Зізаній стаў актыўным удзельнікам вучонага гурта пры Кіева-Пячэрскай брацкай школе. Маючы ў сваім распараджэнні друкарню Кіева-Пячэрскай лаўры, яны разгарнулі шырокую асветніцкую дзейнасць. Лаўрэнцій займаўся рэдагаваннем кніг, якія рыхтавалі ўдзельнікі гурта.

У 1623 годзе Лаўрэнцій Зізаній з сынамі Іванам і Аляксандрам павёз у Маскву рукапіс сваёй кнігі "Катэхізіс". Яна была перададзена патрыярху Філарэту, які выявіў у ёй адступленні ад праваслаўнага канона. Маскоўскае духавенства не дазволіла Лаўрэнцію пакінуць у кнізе думкі, якія вызначаліся рацыяналізмам. "Катэхізіс" у выпраўленым выглядзе быў надрукаваны ў 1627 годзе, але неўзабаве трапіў у лік "лацінскай ерасі". Аднак потым ён выдаваўся некалькі разоў (у Гродне ў 1783, 1787, 1788 гадах; у Пскове ў 1874 годзе) і быў настольнай кнігай раскольнікаў.

Пасля Лаўрэнцій разам з сынамі вярнуўся ў Кіеў, і яму давялося 13 жніўня 1628 года выступіць на саборы супраць М. Сматрыцкага на дыспуце па кнізе "Апалогія".

Апошні раз у дакументах імя Лаўрэнцыя Зізанія ўпамінаецца 8 лютага 1634 года. У іх гаворыцца пра намаганні вядомага вучонага адстаяць свае правы на маёмасць, якую яму дараваў князь Я. Карэцкі.

Дзейнасць і творчасць Лаўрэнцыя Зізанія пакінула адметны след у гісторыі адукацыі, асветы і культуры Беларусі. Вялікая заслуга беларускага гуманіста і асветніка XVI стагоддзя ў стварэнні навукова-педагагічнай літаратуры, што адкрывала шлях да свецкай адукацыі. Асаблівае значэнне мела яго творчасць, у якой пашыраліся гуманістычныя погляды на шэраг з'яў у прыродзе. Ён заўсёды актыўна выступаў як вучоны, педагог, пісьменнік, грамадскі і царкоўны дзеяч.

**Марат БАТВІННІК,**
**кандыдат гістарычных навук.**

## НОВЫ ГОД ІДЗЕ НА БЕЛАРУСЬ

**Сяргей ЧЫГРЫН**

**Новы год ідзе на Беларусь,**
**А стары знікае назаўсёды.**
**Будзе новы вытканы абрус,**
**Прагучаць і новыя акорды.**

**Новы год ступае асцярожна,**
**А стары імчыцца ў небыццё.**
**Новы год жадае пераможна**
**Упрыгожыць нашае жыццё.**

**Ён ману з хлуснёю ненавідзіць,**
**Халуёў не любіць, брахуноў.**
**Можа беларусаў ён разбудзіць**
**Ад цяжкіх й летаргічных сноў.**

**Новы год ідзе на Беларусь,**
**Каб пачуць Купалу і Скарыну.**

**Мой народ рахманы прыгарнуць,**
**Абагрэць яго, каб не загінуў.**

**Новы год ступіў на курганы,**
**На крутыя сцежачкі, як змейкі.**
**Тут з далёкай, мудрай даўніны**
**Плачуць ў хатах сумныя жалейкі.**

**Можа гэта шчэ не Беларусь,**
**А зусім далёкая краіна!..**
**Божа, дакажы, што Беларусь**
**Для майго народа не чужына.**

**Дай сустрэць з надзеяй Новы год,**
**І не дай ты Бацькаўшчыне згінуць.**
**Каб трывогу і мяшок турбот**
**На наступны год нам не пакінуць.**

## ВУЧОНЫ І ДАСЛЕДЧЫК

75-годдзю з дня нараджэння Сцяпана Александровіча прысвячалася навуковая канферэнцыя, што прайшла ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. Выступоўцы гаварылі пра важкі і адметны ўклад вучонага і даследчыка ў гісторыю роднай культуры і літаратуры, пра яго змаганне за лёс беларускага слова.

Адкрыла пасяджэнне дырэктар Коласаўскага музея З. Камароўская. Яна вучылася ва універсітэце ў Сцяпана Хусейнавіча і пісала дыпломную работу пад яго рупным кіраўніцтвам. Затым рэй павёў галоўны арганізатар канферэнцыі дацэнт Мінскага педуніверсітэта, віцэ-прэзідэнт Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" І. Канапацкі.

З Масквы на ўрачыстасць прыехаў прафесар А. Каўка. Ён калісьці вучыўся ў Сцяпана Хусейнавіча ў Мінскім бібліятэчным тэхнікуме. З успамінамі пра С. Александровіча выступілі таксама Я. Брыль, Н. Гілевіч, М. Аўрамчык, А. Ліс, В. Чамярыцкі.

Закончылася канферэнцыя песнямі на розных мовах.

## ЖЫВЕ Ў ДАЎГАЎПІЛСЕ ПАЭТ

У пачатку лістапада ў Даўгаўпілсе ў Латвіі прайшоў аўтарскі вечар паэта Станіслава Валодзькі, прысвечаны 40-годдзю з дня яго нараджэння і прэзентацыі зборніка вершаў "У вачах Айчыны". На вечары з віншавальнымі словамі і добрымі пажаданнямі выступалі прадстаўнікі мясцовых улад, генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе, мясцовыя паэты, мастак Вячка Целеш з Рыгі, сябра беларускай суполкі ў Даўгаўпілсе "Уздым". Свае віншаванні даслаў паэт С. Панізьнік з Мінска, які напісаў прадмову да гэтага зборніка.

А ў канцы лістапада падчас увахоздзін у новую бібліятэку ў Астраўцы, што на Гродзеншчыне, адбылася прэзентацыя гэтага зборніка С. Валодзькі ("У вачах Айчыны") і зборніка вершаў Рычарда Бялячыца "Прасветлінка" (Р. Бялячыц таксама ўраджэнец Астравеччыны, зараз жыве на Шчучыншчыне).

# КАЛЯНДАР сьвят і абрадаў беларусаў 1997

### СТУДЗЕНЬ
ЗЯМЛЮ І ЛЮДЗЕЙ СТУДЗІЦЬ

| | | |
|---|---|---|
| 1 | С | НОВЫ ГОД |
| 2 | Ч | |
| 3 | П | |
| 4 | С | |
| 5 | Н | |
| 6 | П | ПОСНАЯ КУЦЦЯ |
| 7 | А | КАЛЯДА, ЗОРКА |
| 8 | С | БАБІНЫ |
| 9 | Ч | ВАДЖЭННЕ КАЗЫ |
| 10 | П | ЯШЧУР |
| 11 | С | |
| 12 | Н | |
| 13 | П | ШЧОДРЫК, КОНІКІ |
| 14 | А | ВАСІЛЛЕ |
| 15 | С | ВАДЖЭННЕ МЯДЗВЕДЗЯ |
| 16 | Ч | |
| 17 | П | |
| 18 | С | ВАДЗЯНАЯ КУЦЦЯ |
| 19 | Н | ВАДОХРЫШЧА |
| 20 | П | ЛЯНІВЫ ДЗЕНЬ |
| 21 | А | |
| 22 | С | |
| 23 | Ч | |
| 24 | П | |
| 25 | С | ТАЦЦЯНЫ |
| 26 | Н | |
| 27 | П | |
| 28 | А | |
| 29 | С | |
| 30 | Ч | |
| 31 | П | ГУСЕЎНІК |

МАЛАЯ ВЯСЕЛЬНІЦА

### ЛЮТЫ
НАРОБІЦЬ ПАЮТЫ

| | | |
|---|---|---|
| 1 | С | |
| 2 | Н | |
| 3 | П | |
| 4 | А | |
| 5 | С | |
| 6 | Ч | АКСІННЯ-ПАЎЗІМІЦА |
| 7 | П | |
| 8 | С | СТРЭЧАНЬСКІЯ ДЗЯДЫ |
| 9 | Н | ЗАЛАТАВУС |
| 10 | П | |
| 11 | А | |
| 12 | С | |
| 13 | Ч | |
| 14 | П | СТРЭЧАНЬСКІ БАЦЬКА |
| 15 | С | СТРЭЧАННЕ-ГРАМНІЦЫ |
| 16 | Н | |
| 17 | П | |
| 18 | А | |
| 19 | С | ВАЎКАЛАКІ |
| 20 | Ч | |
| 21 | П | |
| 22 | С | |
| 23 | Н | |
| 24 | П | УЛАССЕ |
| 25 | А | |
| 26 | С | |
| 27 | Ч | |
| 28 | П | |

МЯСАЕД, АЗЕДАЎ, МАЛАЯ ВЯСЕЛЬНІЦА

### САКАВІК
ЖАЎРУКОЎ ГУКАЕ...

| | | |
|---|---|---|
| 1 | С | БАБЫ, ДЗЯДЫ МЯСАЕДНЫЯ |
| 2 | Н | |
| 3 | П | ЦЯГАЦЬ КАЛОДКІ |
| 4 | А | |
| 5 | С | ПАПЕЛЕЦ |
| 6 | Ч | МАСЛЕНКА |
| 7 | П | |
| 8 | С | |
| 9 | Н | ЗАГАВІНЫ, ГУКАННЕ ВЯСНЫ |
| 10 | П | ШЫЛЬНЫ, ПАЛАСКАЗУБ |
| 11 | А | |
| 12 | С | |
| 13 | Ч | ВАСІЛЬ І МАРЫНА |
| 14 | П | ВЯСНА |
| 15 | С | ЛЕТА |
| 16 | Н | ЗІМА |
| 17 | П | ВОСЕНЬ |
| 18 | А | |
| 19 | С | |
| 20 | Ч | РАЎНАДЗЕНСТВА |
| 21 | П | |
| 22 | С | САРАКІ |
| 23 | Н | |
| 24 | П | |
| 25 | А | РЫГОР |
| 26 | С | |
| 27 | Ч | |
| 28 | П | |
| 29 | С | |
| 30 | Н | |
| 31 | П | ЦЕПЛЫ АЛЯКСЕЙ |

СЫРНЫ, ЗБОРНЫ, ВЯЛІКІ ПОСТ

### КРАСАВІК
ЗЯМЛЮ КРАСУЕ

| | | |
|---|---|---|
| 1 | А | |
| 2 | С | СЕРАДАПОСЦЕ |
| 3 | Ч | |
| 4 | П | ВАСІЛЬ-СОНЕЧНІК |
| 5 | С | |
| 6 | Н | КАМАЕДЗІЦА |
| 7 | П | ЗВЕСТАВАННЕ |
| 8 | А | |
| 9 | С | |
| 10 | Ч | |
| 11 | П | |
| 12 | С | |
| 13 | Н | |
| 14 | П | ДАМАВІК |
| 15 | А | |
| 16 | С | |
| 17 | Ч | |
| 18 | П | |
| 19 | С | |
| 20 | Н | ВЕРБНІЦА |
| 21 | П | |
| 22 | А | |
| 23 | С | |
| 24 | Ч | ЧЫСТЫ |
| 25 | П | ЧЫРВОНАЯ |
| 26 | С | ВЯЛІКАЯ |
| 27 | Н | ВЯЛІКДЗЕНЬ ВАЛАЧОБНЫ |
| 28 | П | |
| 29 | А | |
| 30 | С | ЗОСІМ |

ХРАШЧАТЫ, ПАХВАЛЬНЫ, ВЕРБНЫ, ВЯЛІКІ ПОСТ, ВЯЛІЧКА

### ТРАВЕНЬ
ТРАВЫ РОСЦІЦЬ

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Ч | НАЎСКІ ВЯЛІКДЗЕНЬ |
| 2 | П | |
| 3 | С | |
| 4 | Н | ПРАВАДНАЯ |
| 5 | П | ЛЯЛЬНІК |
| 6 | А | ЮР'Е, РАДАЎНІЦА |
| 7 | С | |
| 8 | Ч | БАБСКІЯ РОЗБРЫКІ |
| 9 | П | |
| 10 | С | ЯРЫЛАВІЦА |
| 11 | Н | |
| 12 | П | |
| 13 | А | |
| 14 | С | |
| 15 | Ч | БАРЫС |
| 16 | П | |
| 17 | С | |
| 18 | Н | РАСАДНІЦА |
| 19 | П | |
| 20 | А | |
| 21 | С | МІКОЛЬНІК |
| 22 | Ч | МІКОЛА |
| 23 | П | |
| 24 | С | КІРЫЛАВІЦА |
| 25 | Н | |
| 26 | П | |
| 27 | А | СІДАР |
| 28 | С | ПАХОМ |
| 29 | Ч | КАНАПЕЛЬКА |
| 30 | П | |
| 31 | С | |

ВЯЛІЧКА, ВАДЖЭННЕ СТРАЛЫ

### ЧЭРВЕНЬ
СЕНА РЫХТУЕ

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Н | |
| 2 | П | |
| 3 | А | УЛЛЯНІЦА |
| 4 | С | ВАСІЛІСКА |
| 5 | Ч | УШЭСЦЕ, ПАХАВАННЕ СТРАЛЫ |
| 6 | П | |
| 7 | С | ЗЕЛЯНЕЦ |
| 8 | Н | |
| 9 | П | |
| 10 | А | |
| 11 | С | |
| 12 | Ч | СЕМІК |
| 13 | П | |
| 14 | С | ТРАЕЦКІЯ ДЗЯДЫ |
| 15 | Н | ТРОІЦА, КУСТА |
| 16 | П | ПРАВАДЫ РУСАЛКІ |
| 17 | А | |
| 18 | С | |
| 19 | Ч | НАЎСКАЯ ТРОЙЦА |
| 20 | П | СОНЦАСТАЯННЕ |
| 21 | С | |
| 22 | Н | РОЗЫГРЫ |
| 23 | П | |
| 24 | А | |
| 25 | С | |
| 26 | Ч | АКУЛІНА - ЗАДЗЯРЫ ХВОСТ |
| 27 | П | |
| 28 | С | |
| 29 | Н | |
| 30 | П | |

ВАДЖЭННЕ СТРАЛЫ, СЁМУХА, РУСАЛЬНЫ

### ЛІПЕНЬ
ПЯКУЧЫ, АЛЕ ДАРУЧЫ

| | | |
|---|---|---|
| 1 | А | |
| 2 | С | |
| 3 | Ч | |
| 4 | П | |
| 5 | С | |
| 6 | Н | КУПАЛЛЕ |
| 7 | П | ІВАН КУПАЛЬНЫ |
| 8 | А | |
| 9 | С | |
| 10 | Ч | САМСОН-СЕНАГНОЙ |
| 11 | П | |
| 12 | С | ПЯТРО |
| 13 | Н | ПАЎЛЮК-ТАЛАКА |
| 14 | П | КУЗЬМА І ДЗЯМ'ЯН |
| 15 | А | |
| 16 | С | |
| 17 | Ч | |
| 18 | П | АНДРЭЙ-НАЛІВА |
| 19 | С | |
| 20 | Н | |
| 21 | П | ЗАЖЫНКІ |
| 22 | А | |
| 23 | С | |
| 24 | Ч | |
| 25 | П | |
| 26 | С | СЕРПАВІЦА |
| 27 | Н | |
| 28 | П | |
| 29 | А | |
| 30 | С | |
| 31 | Ч | |

ПЯТРОЎКА

### ЖНІВЕНЬ
З СЯРПОМ НА ПАЛІ ПАЙШОЎ

| | | |
|---|---|---|
| 1 | П | МАКРЫНЫ |
| 2 | С | ІЛЛЯ |
| 3 | Н | |
| 4 | П | |
| 5 | А | |
| 6 | С | ХЛЕБ БАРЫС |
| 7 | Ч | ГАННЫ |
| 8 | П | |
| 9 | С | ПАЛІКОПЫ |
| 10 | Н | |
| 11 | П | |
| 12 | А | СІЛА |
| 13 | С | СПАСАЎСКІЯ ЗАПУСКІ |
| 14 | Ч | МАКАВЕЙ |
| 15 | П | |
| 16 | С | ВІХРАВЕЙ |
| 17 | Н | |
| 18 | П | |
| 19 | А | ЯБЛЫЧНЫ СПАС |
| 20 | С | |
| 21 | Ч | |
| 22 | П | |
| 23 | С | СПАСАЎСКІЯ ДЗЯДЫ |
| 24 | Н | |
| 25 | П | |
| 26 | А | |
| 27 | С | |
| 28 | Ч | ПРАЧЫСТА |
| 29 | П | ХЛЕБНЫ СПАС |
| 30 | С | |
| 31 | Н | КАПЫТЫ |

СПАСАЎКА

### ВЕРАСЕНЬ
ПОЎНАЕ ГУМНО І КІШЭНЬ

| | | |
|---|---|---|
| 1 | П | |
| 2 | А | |
| 3 | С | |
| 4 | Ч | |
| 5 | П | ЛУПА - ЖЫТА КУПА |
| 6 | С | |
| 7 | Н | БАЎТРАМЕЙ - ЖЫТА СЕЙ |
| 8 | П | |
| 9 | А | |
| 10 | С | МАЦЕЙ |
| 11 | Ч | КАЛІНАВІК |
| 12 | П | |
| 13 | С | ЖАНІЦЬБА КОМІНА |
| 14 | Н | СЫМОН - СТОЎПНІК |
| 15 | П | |
| 16 | А | |
| 17 | С | |
| 18 | Ч | |
| 19 | П | ЦУДЫ |
| 20 | С | |
| 21 | Н | БАГАЧ, ЗАСІДКІ |
| 22 | П | РАЎНАДЗЕНСТВА |
| 23 | А | |
| 24 | С | |
| 25 | Ч | |
| 26 | П | УЗЬВІЖАННЕ |
| 27 | С | |
| 28 | Н | |
| 29 | П | |
| 30 | А | |

ЛЕТА МАЛАДЗІЦ, БАБІНА ЛЕТА

### КАСТРЫЧНІК
ЛЕН КАСТРУЕ

| | | |
|---|---|---|
| 1 | С | |
| 2 | Ч | |
| 3 | П | |
| 4 | С | |
| 5 | Н | |
| 6 | П | |
| 7 | А | |
| 8 | С | |
| 9 | Ч | ШАПТУН ПАКРОЎНЫ |
| 10 | П | САЎКІ |
| 11 | С | ПАКРОЎНЫ БАЦЬКА |
| 12 | Н | |
| 13 | П | |
| 14 | А | ПАКРОЎ |
| 15 | С | |
| 16 | Ч | |
| 17 | П | |
| 18 | С | |
| 19 | Н | |
| 20 | П | СЯРГЕЙ - ДУШУ САГРЭЙ |
| 21 | А | |
| 22 | С | |
| 23 | Ч | |
| 24 | П | |
| 25 | С | МЛЫНАРЫ |
| 26 | Н | |
| 27 | П | |
| 28 | А | |
| 29 | С | |
| 30 | Ч | ПАКЛОНЫ |
| 31 | П | ЛУКАША - ДЗЕЎКА НАША |

ДЗЯВОЧАЕ ЛЕТА, ВЯЛІКАЯ ВЯСЕЛЬНІЦА

### ЛІСТАПАД
ЗІМЕ ВЕЛЬМІ РАД

| | | |
|---|---|---|
| 1 | С | ДЗЯДЫ |
| 2 | Н | |
| 3 | П | |
| 4 | А | |
| 5 | С | |
| 6 | Ч | |
| 7 | П | |
| 8 | С | ЗЬМІЦЕР-ХІЦЕР |
| 9 | Н | |
| 10 | П | ПАРАСКІ |
| 11 | А | |
| 12 | С | |
| 13 | Ч | |
| 14 | П | КУЗЬМІНКІ |
| 15 | С | |
| 16 | Н | |
| 17 | П | |
| 18 | А | |
| 19 | С | |
| 20 | Ч | |
| 21 | П | МІХАЙЛА |
| 22 | С | ПІЛІПАЎСКІЯ ДЗЯДЫ |
| 23 | Н | |
| 24 | П | ХВЕДАР-СТУДЗЯНЕЦ |
| 25 | А | |
| 26 | С | |
| 27 | Ч | ПІЛІП |
| 28 | П | ПІЛІПАЎКА, ЗАПУСТЫ |
| 29 | С | |
| 30 | Н | |

ЗЬМІТРАЎКА, ВЯЛІКАЯ ВЯСЕЛЬНІЦА, ПІЛІПАЎКА

### СНЕЖАНЬ
СНЕГАМ ВЕЛІЦЬ

| | | |
|---|---|---|
| 1 | П | |
| 2 | А | |
| 3 | С | |
| 4 | Ч | |
| 5 | П | |
| 6 | С | ВАРАЖБІТ |
| 7 | Н | КАЦЯРЫНЫ |
| 8 | П | |
| 9 | А | ЮР'Е |
| 10 | С | |
| 11 | Ч | |
| 12 | П | |
| 13 | С | ДЗЯВОЧЫЯ ВАРОЖБЫ |
| 14 | Н | НАВУМ-НАСТАЎНІК |
| 15 | П | |
| 16 | А | |
| 17 | С | ВАРВАРЫ - НОЧ УВАРВАЛІ |
| 18 | Ч | САВЫ-КАЛЯДНІКІ |
| 19 | П | |
| 20 | С | |
| 21 | Н | СОНЦАВАРОТ |
| 22 | П | ГАНКІ - СЯДАЙ НА САНКІ |
| 23 | А | |
| 24 | С | |
| 25 | Ч | РАСТВО, БАТЛЕІ |
| 26 | П | |
| 27 | С | |
| 28 | Н | |
| 29 | П | |
| 30 | А | |
| 31 | С | НОВЫ ГОД |

ПІЛІПАЎКА ПІЛІПАЎКА

Беларускі саюз фальклярыстаў

220050, г.Мінск, вул. К.Маркса, 24-27
Тел.: (017) 227-65-83

Васіль Ліцьвінка

## ПРЫГАЖУНЯ



Прыз сімпатый гледачоў, уручаны Наташы ПАЎЛАВАЙ (на здымку) мінулай вясной, ясна гаворыць аб прыхільнасці віцябчан. Хаця строгае журы гарадскога конкурсу ўключыла яе ў фінальную васьмёрку самых прыгожых дзяўчат. Затое днямі Наташа адыгралася: перамагла ў абласным туры рэспубліканскага конкурсу "Супермадэль Беларусі".

Фота Аляксандра ХІТРОВА.

## ВЫСТАВА Ў КАПЫЛІ

## ЖЫВАПІС НА ШКЛЕ

"Найбагацейшая ў свеце" — менавіта так ахарактарызавала доктар мастацтвазнаўства, загадчыца аддзела старажытнага беларускага мастацтва Нацыянальнага музея Беларусі Н. Высоцкая выставу жывапісу на шкле, што адкрылася ў Капыльскім краязнаўчым музеі. Творы прадставілі малавядомыя мясцовыя мастакі і студэнты сталічнага Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта.

Жывапіс на шкле капыляне ведалі яшчэ ў XVII стагоддзі, быў распаўсюджаны ён і 15—20 гадоў назад, у першую чаргу ў выглядзе партрэтных работ. На жаль, у апошні час захапленне ім пайшло на спад, і таму што шкло — матэрыял далікатны, то шэдэўраў гэтага прымітыўнага мастацтва засталося няшмат.

Тым большай падзякі заслугоўваюць мастакі, работнікі музея і мясцовыя ўлады, якія сабралі рэдкія творы, імкнуцца захаваць іх для нашчадкаў.

## СПОРТ




Некалькі гадоў назад у Мінску ў Зялёным Лузе быў узведзены лёгкаатлетычны манеж, але, на жаль, праз некалькі месяцаў пасля ўводу ён згарэў. І вось, адбудаваны зноў, ён адкрыў свае дзверы для "каралевы спорту".

НА ЗДЫМКУ: у час адкрыцця манежа 20 снежня 1996 года.

Фота Мікалая ПЯТРОВА.

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1449. Падпісана да друку 30.12.1996 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.